PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (2024) ГОД XL БЕЛАСТОК 26 ЛЮТАГА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Могільнікавая царква ў Рыбалах.* **Фота з архіва**

## Нідэрланды на Беласточчыне

Малако на вёсцы — аснова ўсяго. Гаспадар прымушаны да яго вытворчасці, бо яно — крыніца пастаяннага граша. Вытворчасць вытворчасці аднак не роўная. На Беласточчыне малако асацыюецца з невялікай гаспадаркай, 3-4 каровамі і малачарняй, куды а 6-ай раніцы падаюцца з банкамі гаспадары пасля ранняга даення. На захадзе Еўропы гаспадаркі нагадваюць самастойныя камбінаты, дзе гэтае ж малако не толькі што знаходзіць сваё завяршэнне ў цыстэрне для яго ахалоджвання, але перарабляецца на масла, сыр, ці іншыя гатовыя для спажывання прадукты. Ці такое фермерства магчымае ў нас? А больш дэталёва: ці магчымая наогул рэнтабельная вытворчасць малака ў нас?

— Больш як год таму, — кажа Уладзімір Лукошык, гаспадар з Гарадка, — цана малака ў раёне беластоцкай малачарні настолькі ўпала, што ніякім чынам не кампенсаваўся кошт яго вытворчасці. Большыя гаспадары паспрабавалі перамоў з беластоцкай малачарняй (пераняла яе прыватная суполка Mitex), але выглядала на тое, што суполку малако не цікавіць, а ў сувязі з гэтым — не было гарантыі павышэння цэнаў у будучым. У такой сітуацыі гаспадары паспрабавалі выйсці са сваім малаком па-за беластоцкі раён. Гайнаўка і Бельск нібыта згадзіліся прыняць яго, але ўсё-такі баяліся беластоцкай фірмы. Мы шукалі далей — і вось аказалася, што запатрабаванне на малако ёсць у Ломжынскім ваяводстве. Патрабавалася там аднак малако высакаякаснае. Нашым дарадчыкам стаў Рэгіянальны асяродак кааператыўных паслуг у Беластоку, які арганізаваў нам паездку ў Турасль (Ломжынскае ваяводства), дзе нідэрландскія фірмы арганізавалі некалькі прыкладных малочных гаспадарак. Малако ад іх брала Варшава-Воля. Выявілася нам, што можна ўсё-такі „пераскочыць" свой раён.

Першым крокам групы гаспадароў з Гарадка была пакупка цыстэрнаў для ахалоджвання малака. Каштавалі яны прыблізна па 100 мільёнаў старых злотых. У сувязі з тым што заказ быў аптовы (гуртавы — 10 чалавек) фірма ўпусціла 8 працэнтаў цаны, але і так спатрэбіліся крэдыты. У пачатку верасня мінулага года гарадоцкія гаспадары мелі абсталяваныя цыстэрны ў сваіх гаспадарках. Выявілася, што 10 гэтых гаспадарак дае 3 800 літраў малака ў два дні. Адначасна вяліся перамовы наконт збыту малака. Гаспадары пастанавілі, што будуць прадаваць таму, хто найбольш заплаціць. Але тут справай пацікавілася фірма Mitex з Беластока, якая і запрапанавала здавальняючую вытворцаў цану.

— Мы запатрабавалі, каб асноўная цана на нашае малако была такая, як і ўва ўсім раёне, — сказаў У. Лукошык. — Дадаткі да гэтай цаны павінны вынікаць з якасці малака. На якасць складаецца, апрача працэнта тлустасці, таксама яго чысціня — яна вымяраецца колькасцю бактэрыяў у 1 мілілітры:

200—400 тыс. бактэрыяў (Extra III) — 650 зл. дадатку на 1 літр малака,

100—200 тыс. бактэрыяў (Extra II) — 850 зл. дадатку,

ніжэй 100 тыс. (Extra I) — 1 050 зл. дадатку.

Да гэтага даходзіць яшчэ 100 зл. на адным літры за ахалоджванне малака ніжэй 6 градусаў. Агулам яно атрымліваецца так, што, напрыклад, у студзені г.г. літр нашага малака (Extra I клас) каштаваў больш як 5 000 зл. Беластоцкі Mitex пачаў выпускаць г.зв. натуральнае малако (3,8 прац. тлуст., у літровых кардонках) — яно робіцца адно з малака ад гарадоцкіх вытворцаў, іншае якасна не падыходзіць.

У. Лукошык зрабіў аднаго месяца падлік, з якога вынікае, што чысціня малака ад 10 згаданых гаспадароў утрымліваецца ў прамежку 7—55 тыс. бактэрыяў у 1 мілілітры.

— Чысціні такой немагчыма атрымаць у традыцыйнай вытворчасці, — гаворыць У. Лукошык. — Пры даенні рукамі, у найлепшым выпадку, малако змяшчае мільён бактэрыяў у адным яго мілілітры. Іншай справай з'яўляецца выкарыстанне гэтага чыстага малака. Далёка не ўсе малачарні падрыхтаваныя да яго перапрацоўкі.

Дзесяць гарадоцкіх гаспадароў арганізаваліся ў кааператыў вытворцаў малака. Суд яго зарэгістраваў у верасні мінулага года.

— Кааператыў не з'яўляецца выдумкай камуны, — гаворыць Уладзімір Нікіцюк, дырэктар Рэгіянальнага асяродка кааператыўных паслуг у Беластоку. — Кааператыўнасць у Польшчы мае звыш 100-гадовую традыцыю. Ейныя прынцыпы заўсёды былі такімі самымі. Можна ўсяго гаварыць пра некаторую скрыўленасць гэтых прынцыпаў у пасляваенны перыяд.

Кааператыў — прыватная ўласнасць яго членаў. Сэнс існавання кааператыва — павялічванне прыбытку яго акцыянераў. Прыбытак дзеліцца паміж членаў не паводле ўкладзенага капіталу, а паводле абароту кааператыва. Кааператыў — мерапрыемства перад усім для багатых гаспадароў. Яно ўзмацняе іх юрыдычна, даючы новыя магчымасці.

У. Лукошык намерваецца развесці статак сваіх кароў да звыш сарака штук — такая ўмяшчальнасць аборы, якая, як сам гаворыць, адпавядае ўжо нідэрландскім тэхналагічным нормам. Мадэрнізацыя патрабуецца яшчэ пры працэсе падрыхтоўкі корму. Лукошык лічыць, што пры такой аборы ён у змозе загаспадарыць 50 гектараў лугоў. Агулам лугоў у Гарадоцкай і Міхалоўскай гмінах — 3 000 гектараў. Ёсць, значыць, месца для 60 падобных яму гаспадароў, гаспадароў незалежных. Актуальна ў гэтых жа гмінах гаспадарыць яшчэ паўтары тысячы чалавек.

**Аляксандр Максімюк**

## СЛОН І ПОЛЬСКІ ІНТАРЭС

Улады Беластока пастанавілі выкінуць Беларускае грамадска-культурнае таварыства з будынка, які займае яго Галоўнае праўленне. Прычына банальная — Таварыства два гады не плаціць за арэнду памяшкання. Аднак вакол справы зрабіўся шум, якога бацькі горада не прадбачылі. Бо і адкуль, здавалася б, у арганізацыі, якая ледзь дыхае, знойдзецца дастаткова энергіі, каб напісаць пратэст ды яшчэ сабраць пад ім подпісы. Але чаго не зробіць чалавек, калі яго прыціснуць да немагчымага.

Калі пад пратэстам падпісалася 5 тысяч беластачан, а справа стала вядомай ва ўсёй Польшчы, аказалася, што ўлады Беластока далёкія ад канчатковых рашэнняў. Мала таго, знайшлі час — у поўным саставе — спаткацца з беларускімі дзеячамі. І не маглі даўмецца, нашто столькі крыку, калі можна ж дагаварыцца ціха, спакойна.

Але, што пайшло ў свет, таго ўжо не спыніш. Можна, што праўда, старацца адкруціць (або перакруціць) пэўныя інфармацыі. Дзеля такога „адкручвання" старшыня Гарадской рады Ян Хайноўскі 7 лютага склікаў адмысловую прэс-канферэнцыю, падчас якой выявіў сапраўдную прычыну высялення: „Думалі мы памірыць пасвараныя беларускія арганізацыі. БГКТ не пускала ў сваю сядзібу іншыя арганізацыі, а нават прыпісвае сабе манаполію на дзейнасць".

Дык вось як! Беларуская грамадскасць Беластока павінна быць удзячнай уладам горада за сапраўдны бацькоўскі клопат. Вядома ж, нішто так не яднае, як няшчасце.

Ёсць яшчэ адна прычына для ўдзячнасці — дафінансаванне развіцця беларускай культуры. Хаця спадар Хайноўскі не ўмеў назваць суму, якую ў мінулым годзе горад выдаткаваў на культуру, то беспамылкова пералічыў грошы на беларускія справы: 10 мільёнаў на „Гістарычны сшытак", 20 мільёнаў на Свята беларускай культуры і 170 мільёнаў на беларускае консульства (sic!). Толькі найбольш прыдзірлівыя будуць задаваць пытанне, якое дачыненне да культуры беларускай меншасці ў Беластоку мае консульства Рэспублікі Беларусь у гэтым горадзе. Гэта так сама, як сумнявацца ў сувязі Мрожакавага слана з польскім інтарэсам („Słoń a sprawa polska").

Пры нагодзе выявілася, што справа можа мець і скрытны палітычны сэнс. Такой шуміхай хтосьці хоча, дадумоўваецца віцэ-старшыня Гарадской рады Вальдэмар Паўлоўскі, перашкодзіць далучэнню Польшчы да НАТО.

Дзе дровы рубаюць, там трэскі ляцяць. Адна з іх папала ў зусім непрычынны „Часопіс". Спадар Паўлоўскі заўважыў, што „Часопіс" — гэта „орган усходняй Беласточчыны". А падзел Беласточчыны вельмі ж яму нагадвае 1939 год.

Як палякі ў Беластоку ўспрымаюць 1939 год — вядома. Беспадстаўны намёк на каго-небудзь з тутэйшых беларусаў, што хацеў бы ён вяртання таго верасня, выходзіць далёка за канвенцыю жарту. Тым не менш не пашкодзіла б спадару Паўлоўскаму крыху падвучыцца гісторыі. Тады ён ведаў бы, што ў 1939 годзе Беласточчыну ніхто не падзяліў. Да СССР была яна далучана поўнасцю, разам з Ломжай і Малкіняй.

**Мікола Ваўранюк**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Wiceprzewodniczący Rady Miejskiej Białegostoku dał do zrozumienia dziennikarzom, że konflikt wokół budynku, w którym mieści się siedziba BTSK, wywołany jest aby Polska nie mogła wejść do NATO i struktur europejskich. Niektórzy chcieliby wykorzystać zdestabilizowaną sytuację w kraju. Przy okazji zaprezentował miesięcznik mniejszości białoruskiej „Czasopis”, który określa się organem wschodniej Białostocczyzny. Pismo dzieląc Białostocczyznę wywołuje duchy z 1939 r.*

*(Gazeta w Białymstoku, nr 33)*

Здаўна ведаем, што ўсяму вінаваты яўрэі, беларусы, масоны, цыклісты і журналісты. Уваходжанню Польшчы ў структуры Паўночнаатлантычнага дагавору гэтым разам найбольш перашкаджаюць беларусы. Цікава, што было б, каб вясною пачалася эпідэмія грыпы. У сярэднявякоўі ўсе хваробы прыносілі яўрэі, сёння несумненна крыніцай такой заразы былі б беларусы.

* * *

*W Polsce nie umarły jeszcze przejawy ksenofobii i fanatyzmu. Powstała nawet nowa postać surrealistycznego antysemityzmu, godząca nie tylko w tych, którzy się za Żydów uważają, lecz także mianowanych Żydami. Mianować Żydem można każdego bez dowodów. Według ekstremistycznych grupek w Polsce żyje kilka milionów Żydów, którzy jej szkodzą. Owo maniakalne przekonanie ma, niestety, wpływ na część opinii publicznej.*

*(Polityka, nr 5)*

У нашай рэдакцыі толькі палова супрацоўнікаў з'яўляецца яўрэямі.

* * *

*Amerykańska firma dystrybucyjna planuje adaptację sali w budynku Centrum Kultury i Sztuki Białoruskiej* (Беларускі музей — рэд.) *na salę kinową.*

*(Kurier Poranny, nr 32)*

Клас! Амерыканскае сучаснае кіно ў Беларускім музеі — гэта ўжо нейкі прагрэс у выкарыстанні памяшканняў. Найчасцей экспанаты аглядаць будзе Шварцэнегер або іншы падобны да яго звер з амерыканскіх баевікоў.

* * *

*Wielu polityków polskich postępuje tak, jakby nie rozumieli specyfiki swej profesji. Bez skrupułów łamią reguły demokracji, z nienawiścią niszczą przeciwników, z zapałem oddają się nadużywaniu władzy. Coraz powszechniejsze staje się przekonanie, że nieodłączną cechą polityków jest nieuczciwość. Tymczasem opisywane przypadki defraudacji, korupcji, głośne libacje w hotelu poselskim, kumoterstwo czy nawet gwałty pomijane są milczeniem, opryskliwością albo wywołują furiackie ataki na prasę z zapytaniem: „kto za tym stoi?”*

*(Wprost, nr 6)*

* * *

*Gmina Białystok przeznacza kilkusetmilionowe dotacje na kulturę białoruską. Chcemy stworzyć skłóconym organizacjom białoruskim możliwość wspólnego działania — powiedział Jan Chojnowski przewodniczący Rady Miejskiej w Białymstoku.*

*(Gazeta Współczesna, nr 28)*

Kilkusetmilionowe dotacje wyglądają tak: 10 mln na „Zeszyty Historyczne”, 20 mln na „Święto Kultury Białoruskiej”. І гэта ўсё. Бюджэт горада Беластока выдаткаваў на культуру ў 1994 г. 13 мільярдаў. На беларускую культуру выдзеліў з гэтай сумы аж 30 мільёнаў, г.зн. 0,0023%.

* * *

*Polska podpisała Konwencję Ramową o Ochronie Mniejszości Narodowych. Państwa — sygnatariusze Konwencji zobowiązują się do walki z dyskryminacją, sprzyjania pełnej i skutecznej równości, stworzenia warunków umożliwiających zachowanie i rozwój kultury mniejszości narodowych oraz zachowanie ich tożsamości. Konwencja zobowiązuje również państwa, które ją podpisały do zapewnienia osobom należącym do mniejszości narodowych swobody pokojowych zgromadzeń, swobody stowarzyszania się, wolności słowa, myśli, sumienia i religii, zapewnienia im dostępu do środków przekazu.*

*(Gazeta Współczesna, nr 24)*

Папера ўсё вытрымае. Можна пісаць і падпісваць усялякую фантастычную творчасць, але і так ніхто на гэта не зверне ўвагі, уключна з тымі, хто падпісвае.

* * *

*Niskie notowania Wałęsy skłaniają wiele osób do lekceważenia jego kampanii. Ma on jednak całkiem dobre szanse, by stać się jedynym reprezentantem elektoratu o sympatiach populistyczno-autorytarnych i prawicowo-tradycjonalistycznych. Dla powodzenia kampanii Wałęsy znaczenie rozstrzygające mieć będzie poparcie „Solidarności” i Kościoła. Nie ma wątpliwości, że obóz narodowo-chadecko-populistyczny będzie silny, a Wałęsa stanie na jego czele,* — піша Рышард Бугай.

*(Gazeta Wyborcza, nr 25)*

Гэта абазначае, што „Леху” будзе не прэзідэнтам, а манархам III Рэчы Паспалітай. З кандыдатам „набожных айцоў” ніхто не выйграе выбараў.

* * *

*Trzech Polaków i Szwajcar otrzymali nagrody „Przeglądu Prawosławnego”. Polacy to Mikołaj Buszko z Hajnówki, ksiądz Jerzy Szurbak z Warszawy, prof. Wiktor Rowdo z Mińska.*

*(Kurier Poranny, nr 26)*

Ніколі не паверым у тое, што Мікола Бушко стаў палякам.

* * *

*Japoński robotnik w 1994 r. za godzinę pracy otrzymywał 19,01 dolara (po potrąceniu stawek ubezpieczeniowych), amerykański zaledwie 16,73, niemiecki 25,71, szwajcarski 22,63, belgijski 21,21, austriacki 20,27. Zarobki w ostatnich latach najszybciej rosną w Azji.*

*(The Wall Strret Journal Europe, nr 6)*

У Польшчы рабочы за гадзіну працы атрымлівае 0,8 долара, у Беларусі — 0,15. Цана большасці тавараў у Польшчы прыблізна такая, як і ў Нямеччыне, Аўстрыі ці Бельгіі.

* * *

*KPN i „Solidarność” będą tworzyć blok patriotyczno-niepodległościowy, który odsunie postkomunistów od władzy.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 33)*

А гэта абазначае, што наступныя парламенцкія выбары СЛД выйграе яшчэ большай колькасцю галасоў, чым папярэднія.

* * *

*Siergiej Koroljow poprowadził swój kraj w przestrzeń kosmiczną. Dzięki jego badaniom ZSRR pierwszy wystrzelił satelitę, pierwszy człowiek poleciał w Kosmos, sfotografowano Księżyc. Życie Koroljowa było trudne, władze radzieckie więziły go i torturowały. Jego imię trzymano w tajemnicy. Kiedy jego osiągnięcia uznano w świecie warte uhonorowania Nagrodą Nobla, poproszono władze ZSRR o podanie jego nazwiska. Odpowiedzią było, że wszystkie genialne odkrycia są zasługą narodu radzieckiego.*

*(To i owo, nr 7)*

## З мінулага тыдня

Сеймавая Камісія па справах кантактаў з палякамі за граніцай прызнала мэтазгодным стварэнне пасады **заступніка правоў нацыянальных меншасцей у Польшчы.** Гэтую думку падтрымаў праф. **Тадэуш Зялінскі** — заступнік грамадзянскіх правоў.

**Дэфіцыт Польшчы** ў гандлі харчовымі прадуктамі паменшыўся ў 1994 г. амаль на палову — да 302 млн. дол. Расце экспарт харчтавараў у краіны былога СССР. У 1994 г. склаў ён 25% усяго харчовага экспарту і дасягнуў сумы 581 млн. дол. Расея, Літва, Украіна і Беларусь перш за ўсё купляюць безалкагольныя напоі і сухое малако.

**У Варшаве** адбылося ўрачыстае пахаванне астанкаў апошняга караля Польшчы **Станіслава Аўгуста Панятоўскага.** У 1938 г. прах манарха быў перавезены з Пецярбурга ў Волчын каля Брэста, а ў 1988 годзе астанкі з разбуранага волчынскага касцёла трапілі ў Варшаву. Урна з прахам караля Станіслава Аўгуста спачыла ў склепе Архікатэдральнай базілікі.

Невядомыя віноўнікі падпалілі **помнікі ў гонар нямецкіх салдат** у двух мясцовасцях на Шлёнску. А пры шашы з Кендзежына ў Аполе былі намаляваны надпісы з патрабаваннем высяліць у Нямеччыну апольскага біскупа **Альфонса Носаля.**

**Супрацоўнікі паліцыі** з 47 ваяводстваў, у тым ліку і з Беластоцкага, прымалі ўдзел у агульнапольскім прафсаюзным пратэсце, патрабуючы павелічэння бюджэтных сродкаў на паліцыю. Паколькі паліцыянты не маюць права на забастоўку, іхні пратэст абмежаваўся да вывешвання сцягоў на будынках і флажкоў на службовых аўтамашынах.

Першае ў Польшчы **культурнае таварыства цыганоў** паўстала ў Гожаве-Велькапольскім. Старшынёю таварыства стаў **Эдвард Дэмбіцкі,** кіраўнік калектыву „Тэрно”, а адным з заснавальнікаў выступіў **Станіслаў Станкевіч** з Беластока, віцэ-прэзідэнт сусветнай цыганскай арганізацыі Romani Union, выдавец цыганскага месячніка „Rrom-Po-Drom”.

**У Сейнах** пабывала дэлегацыя польскай нацыянальнай меншасці ў Літве. Прыехалі яны сюды па запрашэнню літоўскіх арганізацый у Польшчы. На працягу двух дзён госці знаёміліся з умовамі жыцця ды грамадскай, культурнай, гаспадарчай і адукацыйнай дзейнасцю літоўцаў у гмінах Пуньск і Сейны.

**У Ваяводскім судзе ў Беластоку** зарэгістравана ўжо 174 найменні часопісаў, бюлетэняў і інфарматараў з тэрыторыі Беластока і ваяводства. У мінулым годзе ўзніклі 24 новыя выданні, у тым ліку **„Ведамасці Праваслаўнай Беластоцка-Гданьскай Епархіі”.**

**Паміма частковага пагашэння задоўжанасці** ў канцы мінулага года беластоцкае школьніцтва зноў патанае ў даўгах. Асветны сектар у Беластоцкім ваяводстве завінаваціўся ўжо на 61 мільярд старых злотых. У параўнанні з іншымі ваяводствамі — гэта нямнога, паколькі рамонты і будаўнічыя работы фінансавалі гміны. Мясцовыя самаўрады прызначылі на асвету ў мінулым годзе 50 млрд. старых зл.

**„Жыхары Гайнаўкі”** накіравалі адкрытае пісьмо прэзідэнту горада Беластока, у якім даюць яму сваю падтрымку ў справе будынка пры вул. Варшаўскай, які займае ГП БГКТ. „Жыхары” даносяць прэзідэнту, што сапраўдны цэнтр беларускай культуры знаходзіцца ў Гайнаўцы, а не ў Беластоку. Як прыклад падаюць яны, што ў іх горадзе працуе аграмадны Беларускі ліцэй, а Дом культуры „Гурнік” у сапраўднасці з'яўляецца Беларускім домам культуры, у якім праводзяцца шматлікія беларускія мерапрыемствы. Згадваюць яны таксама пра Беларускі музей — калос, у якім размешчаны кіназала, кафэ, бібліятэка, чытальня, актавая зала, пакоі для гасцей, залы з музейнымі экспанатамі. Ліст канчаецца сцверджаннем аб другараднасці беластоцкага будынка БГКТ для беларускай культуры і запрашэннем прэзідэнта Беластока наведаць Гайнаўку. Пісьмо „жыхараў” апублікавала „Газета Вспулчэсна”.

## Праз тыдзень у „Ніве”

- II Фестываль беларускай песні ў Беластоку.
- Трагедыя ў Мастаўлянах.
- Што такое "законнасць" у Беластоку.
- Успаміны Віктара Шведа.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Візіт у Літву

Афіцыйны візіт беларускай дэлегацыі на чале з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам завяршыўся падпісаннем дагавора аб добрасуседстве і супрацоўніцтве, які вызначыць далейшую перспектыву ўзаемасупрацоўніцтва суседніх дзяржаў. Акрамя таго падпісаны дагавор аб устанаўленні дзяржаўнай граніцы паміж Літвой і Беларуссю. Падпісаны былі таксама два пагадненні. Першым Літва прызнала ўласнасцю Рэспублікі Беларусь санаторый „Беларусь” у Друзгеніках. Згодна з другім пагадненнем Беларусь перадала Літве т.вз. „аб'ект 500”, які рэгулюе ўзровень вады ў возеры Друкшай і дагаварыліся аб выкарыстанні электрастанцыі „Дружба народаў” ля Друкшайскага возера.

### Лідэр БНФ абвяргае

Лідэр БНФ Зянон Пазьняк, выступаючы на прэс-канферэнцыі, прысвечанай вынікам свайго візіту ў Вялікабрытанію, абвергнуў чуткі аб тым, што на сустрэчах у Лондане абмяркоўвалася пытанне аб прадстаўленні беларускім дэмакратам фінансавай дапамогі з англійскага боку ў час маючых адбыцца выбараў у Вярхоўны Савет. Кансерватары, — паведаміў ён, — гатовы дапамагчы ў ажыццяўленні кантролю за ходам выбараў, выступіўшы ў якасці міжнародных наглядальнікаў. А парламентарыі Вялікабрытаніі маюць намер звярнуцца да генеральнага сакратара ААН з просьбай разгледзець факты парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

### Гуманітарная дапамога

У рэспубліку працягвае паступаць гуманітарная дапамога. Два аўтобусы з адзеннем для беларускіх школьнікаў сабралі і адправілі ў Менск сем'і з розных гарадоў нарвежскага графства Паўночны Трандэлак. У студзені паступіла таксама дапамога ад суайчыннікаў з-за мяжы. Федэрацыя рускіх канадцаў перадала Навукова-даследчаму інстытуту радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне два камп'ютэры вартасцю больш чым на 6 тыс. дол. Грамадзянская арганізацыя „Гумбальт парк” і Руска-амерыканскае жаночае таварыства ў Чыкага перадалі дзіцячаму аддзяленню НДІ анкалогіі і радыялогіі ў Бараўлянах лекаў амаль на 15 тыс. дол. Сувязі з беларусамі за мяжой падтрымоўваюцца дзякуючы Таварыству „Радзіма”.

### Новае выданне

Яшчэ адно выданне з'явілася на беларускім чытацкім рынку. Ім стала новая газета „Белоруссия”, а выдаваць яе пачалі журналісты, што пакінулі „Советскую Белоруссию”. Як піша ў новым выданні яго галоўны рэдактар Ігар Асінскі (колішні шэф „СБ”, зняты з пасады ўказам прэзідэнта ў канцы снежня м.г. за спробу апублікаваць даклад дэпутата ВС Сяргея Антончыка), палітычная платформа „Белоруссии” будзе блізкай да той, на якой знаходзілася ў мінулым годзе „СБ”. Ёсць шанс, што нешматлікія рады незалежнай прэсы папоўняцца яшчэ адным якасна новым выданнем.

### Міграцыйная палітыка

Група экспертаў распрацавала праект канцэпцыі дзяржаўнай міграцыйнай палітыкі. Канцэпцыя накіравана ў першую чаргу на спыненне працэсу ўцечкі мазгоў з Беларусі і змяншэнне прытоку ў рэспубліку эмігрантаў з краін Азіі і Афрыкі. Сёння ў міграцыйнай службе зарэгістравана 25 тыс. асоб з краін СНД, якія шукаюць прытулку ў Беларусі, 1827 чалавек з краін Азіі і Афрыкі, 68 бежанцаў з Чачні.

### Калгасу памагла

Калгас Заказельскі Драгічынскага раёна з гаспадарскім клопатам абсталяваў сядзібу для сям'і прыезджай чараўніцы-шаптухі і намераны перадаць ёй будынак былога фельчарска-акушэрскага пункта. Гэтаму мясцоваму шчодраму апякунству знахараў можна было б дзівіцца, каб не тое, што нарэшце перастала пуставаць калгасная гасцініца, што ёсць работа і кухарам у сталовай, і транспартнікам на маршруце прыгараднага аўтобуса. А ў чаргу да ўладальніцы унікальнага біяполя, Надзеі Шаламенцавай запісана больш за 30 тыс. пацыентаў. Ці знахарка памагае людзям, цяжка сказаць, але ўжо вядома, што памагла Заказельскаму калгасу.

### На бенефіс пабоі

Калектыў Рускага драматычнага тэатра, Беларускі саюз тэатральных дзеячаў і Нацыянальны цэнтр Міжнароднага інстытута тэатра ЮНЕСКА звярнуліся з адкрытым лістом да міністра ўнутраных спраў. У ім аўтары выказалі сваё абурэнне дзеяннямі разбэшчаных злачынцаў і хуліганаў і прывялі абуральны факт бандыцкага нападу ў пачатку лютага на вядомага акцёра Расціслава Янкоўскага. Пасля бліскучай прэм'еры спектакля, дзе Расціслаў Іванавіч выконваў галоўную ролю (дарэчы, усё гэта дзеялася незадоўга да бенефісу акцёра на ягонае 65-годдзе), ён з кветкамі і падарункамі ўдзячных гледачоў і калег вяртаўся дамоў. Дарогу артысту нечакана перагарадзілі тры нягоднікі, збіўшы яго з ног ударам кастэта. Бандыты дзейнічалі не дзе-небудзь на ўскраіне горада, але ў цэнтры Менска, на праспекце Машэрава ля магазіна „Алеся”.




**Do redakcji**

W dzienniku "Rzeczpospolita" 7 lutego br. ukazał się artykuł Anny Wielopolskiej "Tępym nożem po szkle", w którym autorka stara się opisać okoliczności sporu, jaki powstał wokół lokalu Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku. Przypomnijmy, wspomniane Towarzystwo, pomimo umowy z władzami miasta na dzierżawę, od prawie dwóch lat nie uiszczało czynszu, w symbolicznym zresztą wymiarze, ale także nie regulowało należności eksploatacyjnych. W tej sytuacji miasto zmuszone było wypowiedzieć umowę dzierżawną, ale nigdy nie powiedziało, że Towarzystwo to znajdzie się na bruku. BTSK od roku nie próbowało w ogóle rozmawiać z właścicielem budynku, czyli z władzami miasta. I w tym miejscu kończą się fakty, które Anna Wielopolska starała się przedstawić w miarę obiektywnie.

Niestety, nie można tego powiedzieć czytając wynurzenia historyczne w powiązaniu ze współczesnością. W publikacji — delikatnie mówiąc — znalazło się wiele nieścisłości, uproszczeń i, niestety, kłamstw o prześladowaniu mniejszości i kultury białoruskiej. Jest to problem wydumany przez niektórych działaczy białoruskich i służy wyłącznie sianiu niezgody w naszym mieście. Przy okazji chcą oni zbijać swój kapitał polityczny. Nie sposób przemilczeć jawnych kłamstw o rzekomym paleniu cerkwi w okresie międzywojennym czy też innych rzekomych aktach wrogości wobec mniejszości.

Polskie kresy to mieszanina kultur, narodowości i religii. W czasie zaborów władze rosyjskie z całą bezwzględnością tępiły polską kulturę i religię. Tam, gdzie zjawił się choćby jeden carski garnizon, zaraz budowano cerkwie. Mało tego, wiele kościołów katolickich zamieniano na świątynie prawosławne, które w okresie międzywojennym zwracano prawowitym właścicielom. A już wyjątkowo bolesną kartą było to, co zrobiono z unitami. Znane są przykłady wysiedlania całych wiosek unickich, a następnie osadzania tam prawosławnych mieszkańców, często żołnierzy.

Nie wiemy, skąd autorka zaczerpnęła swą wiedzę historyczną o tym, że "przed wojną Białostocczyzna była teatrem płonących cerkwi", czy też o zamykanych — raz po raz — białoruskich gimnazjach i czasopismach. Nic takiego nie odnotowują historycy ani prasa tamtego okresu. W tym województwie, jak nigdzie indziej w kraju, zarówno katolicy, jak i prawosławni żyli ze sobą z zgodzie. W Białymstoku, liczącym wtedy ponad sto tysięcy ludności, mieszkało niewiele ponad tysiąc Białorusinów. Nie istniało gimnazjum, a więc skąd mowa o jego zamykaniu?

Po II wojnie światowej samozwańczy przedstawiciele mniejszości białoruskiej podejmowali próby przyłączenia tych ziem, w tym Białegostoku, do ZSRR, choć od zarania PRL kultura białoruska miała bardzo dobre warunki rozwoju. Właśnie na Białostocczyźnie istniało więcej szkół z językiem białoruskim niż na radzieckiej Białorusi. Nikt też nie może zaprzeczyć, że przez długie lata Polski Ludowej administracja miejska i wojewódzka była opanowana w większości przez mniejszość białoruską, a właśnie Polacy byli obywatelami z podrzędnych stanowisk. Podobnie, a może w jeszcze większym stopniu, było z aparatem PZPR, służbami MO i SB. Nie chcemy już wracać do tych często bolesnych spraw, niech to będzie zamknięta karta historii.

Redaktor Anna Wielopolska powołując się na stastystykę BTSK podaje, że w Białymstoku mieszka sto tysięcy Białorusinów. My w mieście nie prowadzimy takich rachunków. Ale jestem przekonany, że podawana prze BTSK liczba stu tysięcy jest co najmniej dwukrotnie zawyżona. Gdyby faktycznie społeczność białoruska w Białymstoku była aż tak liczna, to Stowarzyszenie nie miałoby zapewne kłopotów z opłacaniem symbolicznego czynszu za lokal i sprzedażą parotysięcznego nakładu białoruskojęzycznego tygodnika "Niwa".

Niedwuznaczna sugestia autorki artykułu, aby w Białymstoku pojawiły się dwujęzyczne nazwy ulic, jest lekkomyślnością. Białystok już raz został przyłączony do Białoruskiej Republiki w 1939 roku i pamięć o tym jest wciąż świeża i powszechna, by władze miejskie zdecydowały się na tak zaskakujące eksperymenty. Z tego miasta i Białostocczyzny wywieziono dziesiątki tysięcy mieszkańców w głąb radzieckiego imperium, gdzie bardzo wielu pozostało na zawsze.

Po wojnie trzykrotnie delegacje białoruskich nacjonalistów jeździły do Moskwy z prośbą o przyłączenie Białostocczyzny do ZSRR. Dlatego też uważam, iż wszelkie dyskusje na temat podwójnej pisowni nazw ulic są przedwczesne. Tym bardziej, że znajomość tego języka jest znikoma wśród mieszkańców miasta, identyfikujących się z mniejszością.

Pragnę jeszcze zaznaczyć, że przedstawienie problemów społeczności białoruskiej, jak uczyniła to Anna Wielopolska, w istocie może tylko skomplikować dotychczasowe zgodne współżycie ludzi różnych narodowości, religii i kultur. Posługując się pretekstem czynszowym wyprowadza ona daleko idące uogólnienia, które dotykają wprost polskiej racji stanu. Wywołać to może wrażenia, że w Białymstoku, a więc w Polsce, mamy do czynienia z nietolerancją i ksenofobią, co jest oczywistą nieprawdą.

**DR ANDRZEJ PIOTR LUSSA**
**PREZYDENT BIAŁEGOSTOKU**

"*Rzeczpospolita*", *nr 38, 14.02.1995 r.*

**Ад рэдакцыі:**

Ліст Прэзідэнта Беластока А.П. Люсы і ягоныя погляды супадаюць са зместам інтэрв'ю з беластоцкімі каталіцкімі іерархамі, змешчаным у „Gościu Niedzielnym" (nr 35, 1993 г.).

Прадэманстраваная вышэй пагарда для фактаў, нянавісць да беларусаў называецца ў Беластоку „dążeniem do ekumenizmu i pojednania w imię chrześcijańskiej miłości bliźniego".




Ад імя маёй мамы, братоў і сястры, прашу Рэдакцыю „Нівы" прыняць словы вялікай удзячнасці за добрую памяць аб Аляксандру Харкевічу.

Вялікае, шчырае Вам дзякуй за тыя ветлівыя словы пра Яго жыццё і дасягненні, што паявіліся ў „Ніве" ад 4.12.1994 г. Запэўніваем Вас, што сапраўды лягчэй пераносіць нечаканае гора, калі ведаем, што Вы з намі, што Вашая памяць аб Ім такая добрая, сардэчная.

Сапраўды, жыццёвы свой шлях прайшоў Ён найлепш як умеў. Вучыў пашаны і разумення людзей, аддавацца ім — без аглядкі на сваё „я". Ціхі, спакойны, адкрыты характар яднаў яму іх. Скромна і ціха жыў, у цішы і адышоў — не прачнуўся трагічнага нам ранку 20 кастрычніка 1994 г.

Шчырыя словы сардэчнай падзякі кіруем таксама да Яго калегаў з БГКТ за ўдзел у пахаванні, а таксама вялікае дзякуй тым усім людзям, якія прынялі ўдзел у апошнім зямным шляху Яго.

Вялікае, шчырае дзякуй Вам усім!

**Юрка Харкевіч**
**(сын)**

# Вёска ішла на вёску

### Найгорш з гонарам

Дарэмна чытачы „кур'ераў" паверылі ў сенсацыйныя звесткі, быццам на дыскатэцы ў Тапалянах пабілі мясцовых. Пабілі, праўда, але заблудаўцаў. І гэты факт у Тапалянах успрымаюць амаль абыякава.

— Teraz wszyscy będą myśleć, że to nas pobili, — пратэставала мясцовая моладзь.

Пражываючыя ў Беластоку сваякі таксама прачыталі газеты. Увесь тыдзень гналіся яны ў родную вёску. Таму спяшаюся паінфармаваць усіх астатніх знаёмых і сваякоў, якія яшчэ не паспелі пераканацца самі: не верце. Тапалянцаў не пабілі!

### Не пагас дух традыцыі

Сем кіламетраў ад Міхалова, на трасе Беласток — Заблудаў — Ялоўка знаходзіцца вялізная, прыгожа адбудаваная вёска Тапаляны. Нягледзячы на гэта, няма ў ёй ужо моладзі. Мае інфарматары далічыліся ўсяго трох маладых гаспадароў. Дзе-нідзе асталіся яшчэ і недабіткі, кавалеры, але іх як на лякарства якое. Усе астатнія хлынулі ў Беласток. Пасярэдзіне вёскі красуецца драўляная царкоўка, якая выглядам напамінае могільнікавыя капліцы. У Тапалянах яшчэ гавораць па-беларуску. Адносіцца гэта толькі да старэйшых, бо ўся моладзь ужо асімілявалася.

— Jest u nas tylko jedna dziewczyna, która umie po prostu, bo matka jej tak ciągle mówi, — пасняялі маладыя тапалянцы і з сімпатыяй ставіліся да маёй беларускай мовы. Палова вёскі каталіцкая і таму многія хацелі б пабачыць у гэтым прычыну боек. Аднак з гэтым поглядам ніхто ў Тапалянах не згаджаецца. Папраўдзе, між жыхарамі няма ніякай розніцы. Жахліва толькі выглядае тут дэмаграфічная сітуацыя. У год на двух народжаных выпадае 16 нябожчыкаў. Вёска памірае. Таму для самых тапалянцаў забавы не арганізуюць. Няма бізнесу пры такіх лічбах.

— Мяне туды зусім не цягне, музыка дзікая, віно таннае, — заявіў адзін з патэнцыяльных удзельнікаў.

Але тагачасе месца „цягне" самых заядлых аматараў разбою. Мабыць, яшчэ не пагас тут дух шматвяковай традыцыі. Усё наваколле з жахам успамінае ваяўнічую мінуўшчыну тапалянцаў. „Рэзунамі" іх называлі. Апошнім часам ужо тры разы палілася тут кроў.

### Ляжала дзесяцёра непрытомных!

У пасляшкольным будынку зараз клуб. Амаль кожную суботу арганізавалі тут дыскатэкі. Непаміраючае „disco polo" прыцягвала многіх паклоннікаў гэтай музыкі. З'язджаліся сюды не толькі з наваколля але і з Беластока. Бяда пачалася тады, калі арандатар будынка, родам з Беластока, прыняў на працу ахоўнікаў (охроняжы). Мясцовым не спадабаліся ападыктычныя паводзіны беластоцкіх асілкаў. Урэшце на Спаса мінулага года супольнымі сіламі рушылі ў бой. Памагалі заблудаўцы. У такім аб'яднаным паўстанні выгналі ненавісную навалач. У бойцы пацярпеў таксама паліцэйскі ў „цывільках", які танцаваў з дзеўкамі, а заадно назіраў за парадкам. „Zadrapali go trochę", — пракаменціравалі ў Тапалянах, не звыкшыя, дарэчы, такія дробязі як утрата прытомнасці называць „пашкоджаннем". Але гэта быў толькі ўступ да крывавага фіналу. Мае інфарматары не пагаджаюцца з версіямі, якія апісалі газеты. Нягледзячы на гэта, захоўваюць яны ўсе нумары часопісаў, дзе пісалася пра іх вёску.

— Праўда, на пачатку дастаў адзін „хлопачэк" з Беластока, — пацвердзілі ўдзельнікі забавы. Але на такія дробязі ніхто тут не звяртае ўвагі. Ва ўсім наваколлі б'юцца, такая мода вярнулася. Беластачане і заблудаўцы, галоўныя героі здарэння, сутыкнуліся тут выпадкова. Не ад сёння вядома, што гэтыя мясціны з сабой ваююць. Беластачане найперш аб'ехалі ўсе навакольныя забавы і выпадкова заглянулі сюды. Таму з'явіліся тут а другой гадзіне ночы.

— Пры клубе затармазілі тры машыны. Выскачылі з іх бойкія хлапчукі ва ўзросце 16—20 гадоў. У руках трымалі бейсбольныя палкі. „Ёсць!", — узрадаваліся, пабачыўшы заблудаўскую моладзь. Быццам маланка ўварваліся яны ў залу. За сабой закрылі ўсе магчымыя ўваходы. Тыя, што мелі фантазію і знаёмства, адразу схаваліся ў службовых памяшканні. Астатнім заблудаўцам не было ратунку. Беластачане прайшліся па зале і пачалі выпіхваць на сярэдзіну сваіх сапернікаў. Першая дастала дзеўка, якая не пускала свайго хлопца да авантуры. Так, ад яе і пачалося. Далей таўкліся як ашалелыя. У зале дзіка праносіліся віскі, праклёны, ляскалі шыбы. Кроў лілася ручаямі. У пэўным моманце ўпоперак ганка ляжала дзесяць непрытомных ваяўнікоў. Тады і я не магла з месца паварушыцца. Стаяла, як укопаная. Цудам толькі ногі падкасіліся, калі нехта замахнуўся над маёй галавой. Ale gdyby ktoś mnie naprawdę ruszył, tobym nie darowała, — расказвала прысутная тады дзяўчына.

Аказваецца, калі многія ляжалі ў крыві, беластоцкія пераможцы і далей шукалі ворага. Па чарзе лупцавалі ўсіх прысутных. Кожны мог дастаць за тое, што быў надта „грубы", „малы" або „прыгожы". Дастаў нават сам уласнік клуба. Шасцёра пацярпеўшых адвезлі ў бальніцу. У самым цяжкім становішчы апынуўся хлопец з пашкоджаным страўнікам.

### Вёска ішла на вёску

Даўней цяжка было сабе ўявіць забаву, на якой не было б скандалу. Традыцыйна вёска ішла на вёску. Кавалеры з Лукі, напрыклад, з гранатамі прыходзілі. Было зусім нармальнай звычкай схаваць у рукаў нож або жалеза на спружыне. Пра такія дробязі як штыкеты ці камяні не варта гаварыць нават.

Цэлую ноч шалела бойка. Звычайна прымала ў ёй удзел уся вёска. Кавалеры пачыналі з „адбіяннага". Заключалася гэта ў тым, што назначаны вясковец падыходзіў да чужынца і забіраў яму партнёрку, гаворачы „одбіянэ". Пры нагодзе з усяе сілы падбіваў яму вока.

Пазней з'яўляліся старэйшыя мужчыны. Уважліва, за бутэлькай, кантралявалі яны сітуацыю. А дзеткі зносілі каменне і штыкеціны. Тыя, каму не пашчасцілася ўдзельнічаць у калатнечы, рабілі атмасферу. Крыкам падбадзёрвалі сваіх герояў. Колькі ж было радасці, калі ў паядынку на камяні чужынец дастаў паміж вочы. І зразумела, што ўсе мелі незабыўныя ўспаміны. Тады няма чаму здзіўляцца тапалянцам.

— Найгорш, што платы па такіх забавах знікаюць, — скардзіўся адзін гаспадар. Але і тыя заўсёды рамантаваў нястомны ўласнік клуба. Самае страшнае ў тым, што заблудаўцы паабяцалі адпомсціць тапалянцам за іхнюю абыякавасць! Прыгразілі, што паб'юць мясцовых, разб'юць ушчэнт будынак і пусцяць яго з дымам.

**Анна Дацюк**

# КОЖНАЯ МЕНШАСЦЬ МАЕ СВАЕ ПРАБЛЕМЫ

9 лютага г.г. віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела склікаў у Варшаве сход рэдактараў часопісаў, адрасаваных да нацыянальных меншасцей у Польшчы. На сустрэчу быў запрошаны таксама старшыня сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцей Яцэк Курань.

Спадар Ягела на пачатку сустрэчы прадставіў сітуацыю паасобных нацыянальных меншасцей у Польшчы. Пачаў з інфармацыі, што ў 1990 г. дзяржава выдаткавала агромныя фінансавыя сродкі на патрэбы кожнай нацыянальнасці, з мэтай забеспячэння матэрыяльнай базы для развіцця іх культуры ў будучыні. Беларусы атрымалі тады 4 278 мільёнаў злотых, украінцы — 5 226 млн., літоўцы — 1 751 млн., славакі — 1 702 млн., яўрэі — 3 000 млн. Некаторыя нацыі выкарысталі гэтыя сумы проста ўзорна. Славакі купілі камяніцу ў Кракаве, украінцы ў Варшаве, усе таксама інвеставалі ў паліграфічную тэхніку. Сёння не маюць яны ніякіх клопатаў ні з памяшканнямі, ні з друкам. Але ёсць меншасці, — гаварыў Ягела, — якія не маюць цяпер амаль нічога з тае агромнае датацыі. Прыкладам з'яўляюцца беларусы. Апошнім часам сродкі масавай інфармацыі прыносяць дастаткова звестак аб праблемах з памяшканнямі для гэтай меншасці.

Віцэ-міністр шмат яшчэ гаварыў пра дзяржаўныя датацыі на забеспячэнне помнікаў архітэктуры, якія застаюцца ў распараджэнні паасобных нацыянальнасцей, пражываючых у межах Рэчы Паспалітай. 15 мільярдаў дзяржава выдаткавала на рамонт цэркваў і касцёлаў, 5 мільярдаў на Яўрэйскі навуковы інстытут, 100 мільёнаў на падарожжа ўкраінскага хору „Журавлі" ў Вялікабрытанію, 100 мільёнаў на прыхадскую школку іканапісцаў у Бельску-Падляшскім, 400 мільёнаў на Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Выглядае на тое, што нацыянальным меншасцям жывецца ў Польшчы цалкам нядрэнна. Варта аднак адзначыць, што ўсе ўспомненыя сумы роўныя тым, якія месячна выдаюцца на кветкі ў неадной дзяржаўнай установе.

Яцэк Курань паясніў, што тыя надзвычайныя грошы, якія Міністэрства культуры і мастацтва перадало на патрэбы нацыянальных меншасцей у 1990 г. былі ўзяты з тайных фондаў Міністэрства ўнутраных спраў. Пасля 1989 г. аказалася, што МУС распараджаўся агромністым бюджэтам, які нідзе не быў зарэгістраваны. Частка гэтага бюджэту выкарыстоўвалася дэпартаментам, які займаўся нацыянальнымі меншасцямі. Відаць, часам неафіцыйна трэба было падтрымаць некаторых дзеячаў. Калі ў 1990 г. справы меншасцей трапілі ў кампетэнцыю Міністэрства культуры і мастацтва, там жа былі адведзены і адпаведныя сумы з МУС. Грошы, якія ішлі на рэалізацыю паліцэйскіх інтрыг, трапілі такім чынам на рахункі „грамадска-культурных таварыстваў". Урад Мазавецкага, — прадаўжаў Курань, — стварыў Бюро па справах нацыянальных і этнічных меншасцей, назначаючы яго дырэктарам Багумілу Бэрдыхоўскую, якая ад некалькіх гадоў працавала ў падпольнай „Салідарнасці", займаючыся гэтымі менавіта праблемамі. Створаны быў таксама калектыў па справах нацыянальных меншасцей на ўзроўні міністэрскага камітэта. Вельмі хутка аднак салідарніцкая эліта пачала змагацца паміж сабою за кіраўнічыя пасты ў дзяржаве і справа нацыянальных меншасцей зышла на вельмі нізкі ўзровень. Ад часу, калі прэм'ер-міністрам стаў Ян Бялецкі, дырэктар Бэрдыхоўская не мела ўжо адпаведнай палітычнай падтрымкі для сваіх планаў еўрапеізацыі палітыкі дзяржавы ў адносінах на нацыянальных меншасцей. Апошнім часам не было ўжо ніякіх умоў, каб весці якую-небудзь актыўную палітыку ў гэтай галіне. Пратэстуючы супраць абыякавасці дзяржаўных улад для справы нацыянальных мешасцей, Бэрдыхоўская пакінула пост, які займала. Яе адстаўка выклікала нейкі зрух ва ўрадзе Паўляка. Прэм'ер пачаў арганізаваць сустрэчы з прадстаўнікамі меншасцей. Сустрэўся з украінцамі і літоўцамі, запланаваная была сустрэча з беларусамі. Быў таксама апрацаваны праект стварэння адпаведнай установы ў структурах Управы Рады Міністраў і падпарадкаванне яе непасрэдна аднаму з віцэ-прэм'ераў. Справа аднак выклікала дыскусію паміж партыямі кіруючай кааліцыі — ПСЛ і СЛД — над тым, якому віцэ-прэм'еру падпарадкаваць гэтую установу. СЛД было за тым, каб меншасці аддаць у апеку У. Цімашэвічу, ПСЛ — А. Лучаку. Пакуль што мяняецца ўрад і справа мусіць пачакаць на канчатковае вырашэнне.

Дыскусія журналістаў з палітыкамі не была цікавая. Як пры кожнай такой нагодзе канцэнтравалася вакол грошай, ці дакладней іх браку. Але пра гэтыя справы ні Ягела, ні Курань не мелі асаблівай ахвоты дыскутаваць, бо пасля зацвярджэння бюджэту дыскусія была б беспрадметнай.

Не ўсё аднак такое простае, як вынікае гэта з логікі палітычных працэсаў. Хаця б справа лэмкаў. Аказалася, што на зале ёсць лэмкі-ўкраінцы і лэмкі, якія лічаць сябе звычайным народам, а не ўкраінскай этнічнай групай. Тыя апошнія, як аказалася, не атрымалі нават датацыі на друк перыядычнага выдання „Бесида", чым былі моцна ўсхваляваныя. Падстаў да нараканняў не мелі лэмкі, якія лічаць сябе ўкраінскай этнічнай групай. Хаця Ягела і Курань заяўлялі, што з боку польскіх улад няма ніякіх інтрыг і што падзелы — гэта іх унутраная справа, здаецца, і так ніхто з лэмкаў не паверыў іх словам. Пра свае праблемы заявілі таксама немцы. Выдаюць яны тры тыднёвікі, якія ў большасці фінансуюцца Міністэрствам унутраных спраў Нямеччыны. Але з Захаду даюць ім грошы тады, калі рэдакцыя атрымае прынамсі частковае фінансаванне з боку польскага ўрада. Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы дае датацыю толькі на адну газету і такім чынам узнікаюць юрыдычныя бар'еры для атрымання грошай з Нямеччыны.

Пра беларуска-праваслаўныя справы гаварыў Яўген Чыквін, рэдактар „Przeglądu Prawosławnego". Звярнуў ён увагу на асаблівую атмасферу, якая існуе на Беласточчыне, на выказванні каталіцкіх іерархаў, якія аспрэчваюць нават існаванне беларусаў на гэтай зямлі.

М. Ягела адказаў, што дзяржава не можа браць адказнасці за тое, што гавораць каталіцкія епіскапы. Я. Курань заўважыў пры нагодзе, што палітычныя падзелы сярод беларусаў выклікаюць вялікія цяжкасці ў наладжанні з імі нейкага дыялогу. Гэтыя канфлікты лёгка выкарыстоўваюцца вонкавымі фактарамі, што яшчэ больш ускладняе сітуацыю.

Адказваючы на словы Кураня, я звярнуў увагу, што не палітычныя падзелы ёсць прычынай раз'яднання буларусаў, а сацыялагічныя. Сярэдні ўзрост адной групы беларускіх дзеячаў у Польшчы сягае 65 гадоў, другой — 35 гадоў. Няма амаль двух пакаленняў спалучаючых гэтыя групы. А натуральныя розніцы паміж імі даволі вялікія. Гэта перш за ўсё два розныя спосабы ўспрымання свету, ідэі народу, мовы, культуры, эканоміі і палітыкі. У васьмідзесятых гадах расло пакаленне беларускай інтэлігенцыі, якое не атрымала ніякай нацыянальнай спадчыны ад старэйшых дзеячаў. Дарогу да нацыянальнай свядомасці шукалі яны ў літаратуры, навуцы, мастацтве і іншых формах самаадукацыі. Ніводная аднак нацыянальная меншасць у Польшчы не прайшла такіх дэнацыяналізацыйных працэсаў у сямідзесятых гадах, як беларусы.

Звярнуў я таксама ўвагу, што сапраўднай праблемай беларусаў у Польшчы з'яўляюцца не малаважныя падзелы, а адсутнасць нацыянальнаша школьніцтва, якое ў сённяшні час ёсць неабходным фактарам існавання кожнай нацыі. Дзяржаўныя ўлады астаюцца прытым зусім глухія на прапановы беларускай інтэлігенцыі, каб стварыць умовы для заснавання такіх школ і перш за ўсё навуковай установы, якая рыхтавала б настаўнікаў, падручнікі і праграмы навучання.

Віцэ-міністр Ягела адказаў, што ў бліжэйшай будучыні не будзе магчымасцей фінансаваць з дзяржаўнага бюджэту беларускую навуковую ўстанову таму, што вялікія сродкі ёсць накіраваны на пабудову музея ў Гайнаўцы (!). Пры нагодзе варта заўважыць, што здаўна існуе Яўрэйскі навуковы інстытут у Варшаве, ствараецца такі сам украінскі. Ёсць і нямецкія навуковыя ўстановы ў Польшчы, але яны фінансуюцца ўрадам ФРГ.

На заканчэнне сустрэчы Яцэк Курань сказаў, што не патрэбныя былі б ніякія сеймавыя камісіі, ні бюро, ні іншыя структуры, ні заканадаўства для нацыянальных меншасцей, калі б большасць мела свядомасць, што Польшча з'яўляецца бацькаўшчынай таксама беларусам, літоўцам, украінцам, немцам, лэмкам, яўрэям, славакам, што мова і культура гэтых народаў мае такую самую вартасць, як і польская.

Цяжка з гэтым не згадзіцца, але гэта толькі назойлівая ідэя.

**Яўген Мірановіч**

# ХТО ТАКІ ПАТРЫЁТ?

З паняццем *патрыятызм* сустрэўся я ўпершыню ў пачатковай школе і з дзіцячых гадоў асацыявалася мне яно з любоўю і адданасцю радзіме. Якое ж было маё здзіўленне, калі па I праграме Менскага радыё пачуў я выступленне старшыні Савета Патрыятычнага руху Беларусі Анатоля Баранкевіча, якое мякка кажучы, не мела нічога супольнага з патрыятызмам у адносінах да Беларусі. Прамоўца на рускай мове рэзка асуджаў вынікі паездкі народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў Дзяржаўную Думу Расейскай Федэрацыі з мэтай дамовіцца наконт правядзення сумеснага пасяджэння беларускага і расейскага парламентаў па аб'яднанню абедзвюх дзяржаў. Лідэра „патриотов" найбольш разгнявіла пазіцыя намесніка старшыні ВС Вячаслава Кузняцова і членаў дэлегацыі, якія ў ходзе перагавораў выказалі свой пункт погляду на справу, іншы, чым меркаванні маскоўскіх парламентарыяў. Прамоўца па радыё пафасна грымеў: „И как всё-таки до глубины души обидно, что этот политический деятель, депутаты от БНФ ехали в Москву не для того чтобы договориться, а для того, чтобы сорвать это мероприятие, заявив, что вряд ли такое заседание состоится в ближайшее время. И далее он предостерёг российских коллег от спешки в деле денонсации, т.е. ликвидации беловежских соглашений, недвухсмысленно заметив: если Госдума и примет такое решение, то Верховный Совет Беларуси вряд ли его примет?" Далей ішлі папрокі: „Кто вам дал право выступать за весь Верховный Совет?! Да и не мешало бы вспомнить результаты референдума марта 1991 года. Они ведь не отменены. Хочу просто напомнить разрушителям отечества нашего слова написанные на кольце Соломона: „И это пройдёт". Народ скоро разберётся, кто есть кто и найдёт в себе силы и стряхнёт з себе тех, кто мешает ему жить и работать".

У гэтым месцы хочацца паставіць пытанне: а хто арганізацыі, якую прадстаўляе згаданы прамоўца, даў права называцца **Патрыятычным** рухам Беларусі? Гэтае выступленне мае антыбеларускі, антыканстытуцыйны характар. Яго аўтар выказваецца за бездумоўнае і неадкладнае аб'яднанне з Расеяй, патрабуе скасавання пагаднення ў Віскулях, якое ўзаконіла распад СССР і ўзнікненне незалежных рэспублік, у тым ліку і самастойнай Беларусі. Ці ж такіх рускамоўных „рухаўскіх" дзеячаў можна называць беларускімі патрыётамі? Яны ж проста ворагі беларускай мовы, якую ўжо нават не „языком", а толькі „говором" называюць. Яны — праціўнікі беларускай культуры і непрыхільнікі незалежнасці беларускай дзяржавы. Гэтыя ж „патрыёты" ў ваяўнічым тоне выказваюцца супраць навучання дзяцей у беларускіх школах, бо, на іх думку, не атрымаюць яны грунтоўнай адукацыі і будуць пазбаўлены здабыткаў сусветнай культуры. Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі часта можна пачуць або прачытаць падобныя выступленні дзеячаў прарасейскіх „рухаў", „сабораў", „саюзаў", якім, на жаль, патураюць некаторыя парламентарыі і дзяржаўныя чыноўнікі.

Трэба спадзявацца, што з часам і гэта пройдзе. Абнадзейвае тое, што сапраўдныя патрыятычныя паставы характэрны ўжо не толькі жменьцы дэмакратычных арганізацый, але пашыраюцца і на іншыя суб'екты грамадска-палітычнага жыцця. Як станоўчы прыклад хай паслужыць пазіцыя дэпутатаў Пінскага гарадскога савета, якія ў звароце да Дзярждумы Расеі наконт аб'яднання напісалі: „Мы раім вам накіраваць свае намаганні на як мага хутчэйшае спыненне агрэсіі ў Чачні, як гэта робіць дэпутат вашай Думы Сяргей Кавалёў, а не займацца стварэннем новай імперыі. І жадаем Расеі стаць дэмакратычнай дзяржавай, у якой з Беларуссю будуць раўнапраўныя, узаемавыгадныя адносіны".

Хочацца верыць, што народ хутка разбярэцца, хто сапраўдны патрыёт Беларусі, а хто пятая калона суседняй дзяржавы, і знойдзе ў сабе сілы ды страсяне з сябе тых „патриотов", якія мяшаюць станаўленню суверэннай Рэспублікі Беларусь.

**Віталь Луба**

Якія мы людзі

# АПОШНІ ДЗЕНЬ КАНІКУЛ

Яшчэ ў пачатку зімовых канікул дзядуля абяцаў сваёй дзесяцігадовай унучцы, што пойдзе з ёю на каток. Малая надта любіла хадзіць з дзедам зімою на стадыён: яна каталася на каньках, а дзед стаяў ля агароджы і прыглядаўся закаханымі вачыма на ўнучку, на тое, што яна вырабляла на лёдзе. Ад часу да часу яна пад'язджала да „вадапою": тады пацягвала з саломкі сок у кардонцы, якую трымаў у руках дзед. Праўду кажучы, дык і рабіла яна розныя эвалюцыі на лёдзе не столькі дзеля сваёй сатысфакцыі, колькі дзеля дзеда. Любіла, калі ён пахваліў.

* * *

А сёлета вось неяк не выйшла. Канікулы пачаліся ад прастуды дзяўчынкі. Тыдзень прасядзела ў хаце, а пасля дзед быў заняты. Але дзед, калі абяцаў, вырашыў слова стрымаць, і ў нядзелю, у апошні дзень канікул, пайшоў з унучкай на каток.

Дзяўчынка старанна збірала ўсё неабходнае ў свой маленькі рэчмяшочак. Палажыла бутэрбродзік, які зрабіла мама, дзве кардонныя каробачкі соку, насавыя хустачкі ды цёплыя шкарпэткі. Канькі з боцікамі ўзяў са сваёй хаты дзед: яму да стадыёна было як рукой падаць. Сустрэліся ля ўвахода на каток.

* * *

Хацелі купіць білет на гадзіны 10—12, але чалавек у касе сказаў, што трэба будзе гадзінку пачакаць, бо да 11-ай працягнуцца спаборніцтвы на лёдзе паміж канькабежцамі Беластока і Віцебска. Якраз падышлі і тры падлеткі з канькамі, павешанымі на плячо. Касір запрапанаваў і ім паглядзець пакуль што спаборніцтвы. „Будзе цікава!" — заахвочваў хлапчукоў.

— Фі! Рускіх глядзець не будзем! — з пагардай сказаў вышэйшы. Усе, як па загаду, павярнулі назад.

Глядзі ты, думаў дзядуля са смуткам, а ў „Ніве" ж нядаўна пісалі, што ўжо Беларусь не лічаць у нас Расіяй... Дзякуй Богу, што не чула гэтага ўнучка, якая ўжо паспела выбегчы за дзверы, — дзед ёй сказаў, што Віцебск — гэта Беларусь. Не хацеў бы ён, каб яна засумнявалася, бо вядома ж, які ўплыў маюць на дзяцей равеснікі. Ды, зрэшты, мусіў бы сканстатаваць, што той хлопец — дурань.

* * *

На катку разыгрывалася шмат канкурэнцый — дзядуля ў іх не надта разбіраўся. Быў бег, здаецца, на пяцьсот метраў, на паўтары тысячы, а пасля была эстафета. Выразна вылучаўся сярод іншых адзін віцебскі канькабежац. Перамог ужо ў бегу на пяцьсот метраў, тады — у другім, і ўжо бег у эстафеце. Ён і быў галоўнай пагрозай для польскай каманды.

Ужо і так беларуская каманда апярэджвала польскую, калі на трэцім этапе эстафету пераняў той найлепшы беларус. Гледачы затаілі дыханне. Няўжо і тут пераможа?! Пачуліся воклічы, а тады скандаванне: „Polska, Polska!" З другога канца не адступала беларуская каманда: „Бе-ла-русь! Бе-ла-русь!"

У хлопца, якому так добра вялося дагэтуль, відаць, не вытрымалі нервы, бо ведаў, як многа залежыць ад яго. Раптам ён расцягнуўся, як доўгі, на лёдзе, марнуючы — на думку большасці балельшчыкаў — свой шанц на перамогу.

* * *

Дзядуля спадзяваўся, што ў гэтым моманце па публіцы пройдзе прыцішаны гул ад цяжкога ўздыху. Так заўсёды бывала — ён бачыў замежныя трансляцыі па тэлебачанні — калі нехта падаў, скажам, ці скачучы на лыжах з трампліна, ці выступаючы ў спаборніцтвах па фігурнаму катанню на каньках, ці ў конных гонках. Людзей агортваў жах не толькі з прычыны пагражаючага спартсмену калецтва, але і з-за таго, што змарнаваліся яго шанцы на перамогу .

Ніколі не заўважыў дзед, каб публіка рэагавала там інакш у залежнасці ад таго, ці падаў рускі ці француз. Ну, можа, калі быў гэта іхны зямляк, дык і ўздых быў больш цяжкі, нейкі глыбейшы, жаласнейшы.

* * *

На беластоцкім стадыёне ніхто не ўздыхнуў, калі грымнуў на лёд беларускі канькабежац. Наадварот, публіка даслоўна зараўла ад надзеі на хуткую перамогу. Людзі крычалі і свісталі, віншавалі адзін другога. Як умелі, выказвалі... падзяку і пахвалу польскай камандзе. Дзед нават здзівіўся, што не было апладысментаў. „Polska! Polska!" — несла рэха па наваколлі.

— А мы, дзедка, за Беларусь, праўда?! — сказала ўнучка. У дзеда пацяплелі вочы.

* * *

Публіка даслоўна захліснулася сваім „поспехам", на лёд ужо нават не глядзела. Ого! — перамагчы ў эстафеце!

Не ўсе нават заўважылі, як хутка прыйшоў у сябе спрытны віцяблянін. Падняўся, пайшоў наперад — і ўжо ізноў беларуская эстафета абганяе. Лепшы — дык лепшы!

Што рабіць? Трэнеры не спяць. Каб не ўбачылі супернікі, польскі трэнер паціху ўпіхае на лёд новага канькабежца, хаця было аб'яўлена, што ў часе апошніх этапаў нельга рабіць ніякіх змен. Можа, ён прынясе перамогу!

Але „шчасце", на жаль, не спрыяла польскай камандзе. Суддзі заўважылі гэты манеўр і дыскваліфікавалі польскую каманду. Прайгралі.

Фі! А што ж гэта за пройгрыш — з-за дыскваліфікацыі?! Калі б не дыскваліфікавалі, маглі б яшчэ і выйграць.

* * *

Калі ўжо малая добранька накаталася, вярталіся дахаты. Дзеду было сумна і радасна. У вушах трымцелі словы ўнучкі: „А мы, дзедка, за Беларусь, праўда?!"

АДА ЧАЧУГА

# Дапаўненне школы

Калі пасядзець крыху даўжэй у Асяродку прафесійнага абучання ў Бельску, складаецца ўражанне, што найбольш папулярны занятак у гэтым горадзе — апальшчык. Кожныя пару хвілін хтосьці заходзіць і, або пытаецца пра тэрмін і кошт чарговых курсаў, або хоча расплачвацца за скончаную навуку.

— У 1989 годзе ўвайшоў у жыццё новы закон, — кажа кіраўнік асяродка Анатоль Барута, — які патрабуе ад апальшчыкаў дакументаў. Правяраць іх прыязджае спецыяльная камісія з Беластока.

Бельскі асяродак, гэта частка беластоцкага ЗДЗэта (па польску: Zakładu Doskonalenia Zwodowego). Такія „заклады" ўзніклі ў кожным старым ваяводстве, яшчэ вялікім — да падзелу 1975 года. Потым некаторыя развязаліся, было створаных некалькі новых і сёння — лепш або горш — працуе 17 ЗДЗэтаў на ўсю Польшчу. На іх фоне беластоцкі прэзентуецца цалкам добра.

— Добра як на крызісную сітуацыю, — удакладняе спадар Барута, — бо, зразумела, былі і лепшыя часы. У нас, у Бельску, можа крыху горш, пакуль што, чым хацелася б, але ў суседніх гарадах, Гайнаўцы ці Сямяцічах, асяродкі працуюць вельмі добра.

У Бельску таксама маюць планы інтэнсіфікаваць сваю дзейнасць. Хочуць адкрыць публічную школу. Умовы для гэтага ёсць, адпаведныя памяшканні і падрыхтаваная кадра. Усё цяпер залежыць ад таго, ці знойдуцца ахвотныя стаць краўцом, кухарам, механікам або цырульнікам. Гэта для абітурыентаў пачатковых школ. Для выпускнікоў ліцэяў прадбачваюцца заняткі па фінансава-прававых падставах суполак і па абслугоўванні турыстычнага руху.

— Мы тут на месцы навучалі б тэорыі, — гаворыць кіраўнік, — а практыку нашы вучні праходзілі б у добрых спецыялістаў-рамеснікаў, у майстэрнях, прадпрыемствах, суполках. За навуку ў нас трэба плаціць. Калі назбіраецца 20 асоб на адну спецыяльнасць, ёсць ужо асновы, каб адкрываць клас. Кошт вучобы ў такім класе — 600 тысяч ад чалавека. Зразумела, чым больш навучэнцаў, тым будзе танней.

У асяродку школа ўжо была — кравецкая. У 1990 годзе адчынілі першы клас, у наступным было ўжо два класы, а яшчэ праз год — тры. Але тады ў „будаўлянцы" адкрылі кравецкі клас і сюды не хапіла ахвотных. У верасні мінулага года 12 дзяўчат, якім заставаўся яшчэ год навукі, апынуліся без школы.

— Але гэта няпраўда, што гаварыла Беластоцкае радыё, баццам мы іх пакінулі на бруку, — кажа Анатоль Барута. — Усе яны канчаюць школу ў нашых асяродках, хто ў Гайнаўцы, хто ў Сямяцічах, а хто ў Беластоку. Таксама, калі цяпер створым класы, давядзем іх да канца.

ЗДЗ гэта не толькі адукацыя моладзі. Гэта таксама курсы для дарослых. Самы шырокі асартымент, не толькі апальшчык, але і: глазурнік, страхар, тынкоўшчык, бляхар, шафёр, токар, апаратар акумулятарных вазкоў і іншыя. Анатоль Барута за тры гады сваёй працы бачыў такіх курсаў з сорак. Падкрэслівае, што вельмі эфектыўныя ў іх курсы на вадзіцельскія правы на легкавую машыну, матацыкл і трактар. Навука язды на легкавой машыне — 22 гадзіны, хаця патрабуецца толькі 20 — і 60 гадзін тэарэтычных занятак („пакуль не навучацца") каштуюць 240 злотых (новых).

— Пасля нашых курсаў экзамены ўсе здаюць, — не без гонару гаворыць кіраўнік. — Ад ліпеня мінулага года толькі дзве асобы правалiліся за першым разам на тэстах, але падвучыліся і за другім разам не было ніякіх праблем.

ЗДЗ не хочуць замяняць дзяржаўных школ. Сваю ролю бачаць якраз як дапаўненне тых школ. Вучаць патрэбным на рынку працы прафесіям, памагаюць змяніць — лепш сказаць: набыць другую — спецыялізацыю.

Мікола Ваўранюк

P.S. За падрабязнымі інфармацыямі можна звяртацца па адрасу:

Ośrodek Kształcenia Zawodowego
ul. Kryniczna 22
17-100 Bielsk Podlaski
tel. 24-49

# Як мы далучалі Заходнюю Беларусь да Савецкага Саюза

Калі Польскае радыё Беласток запланавала цыкл перадач, прысвечаных далучэнню Заходняй Беларусі да СССР, беларускае асяроддзе прыняло гэта насцярожана. Дырэктар беластоцкага радыё Ежы Мушынскі ўспомніў нават пра праявы істэрыі, ды небеспадстаўна. Усе знаёмыя беларусы адмаўляліся прыняць удзел у інсцэнізацыі „Народнага сходу", які адбыўся ў кастрычніку 1939 г. у сённяшнім тэатры імя А. Вянгеркі. Адмовіўся і я, палічыўшы ўдзел у нечым падобным мазахізмам.

У вечар, 16 студзеня, у тэатры імя Вянгеркі ўсе беларускія страхі развеяліся, бо беларусаў ніхто і ў нічым не дакараў.

Зала аздобленая была лозунгамі з эпохі, а над сцэнай, на якой знаходзіўся стол прэзідыума, вісеў партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Нехта з публікі заўважыў пры нагодзе, што калі б тады павесілі такі скромненькі, шэранькі партрэт Правадніка Народа, пэўна ж некага за гэта расстралялі б. Што ж рабіць, большага партрэта ў цэлым Беластоку не знайшлося.

Зала была амаль запоўнена, у большасці моладдзю сярэдніх школ. Спачатку ўсе выслухалі Е. Мушынскага, які прадставіў мэту мерапрыемства: стварэнне гуказапісу дзеля выкарыстання ў далейшых перадачах і аддаў голас праф. А. Судолу. А. Судол з'яўляецца аўтарам небезвядомай кніжкі „Кулісы чацвёртага падзелу", а знойдзеная ім стэнаграма Народнага сходу стала асновай сцэнарыя ўсяго мерапрыемства.

Насуперак маім нядобрым спадзяванням (згаданая кніжка вельмі істэрычная), праф. Судол, хаця і ўспомніў пра „нашэ крэсы всходне", але рашуча аспрэчыў удзел беларусаў і ўкраінцаў у змове. Усё-такі не згаджаюся з А. Судолам у тым, што ў 1939 г. у нашым тэатры прыняты былі якіясьці рашэнні. На маю думку, рашэнні безумоўна прымаліся на Крамлі, а не ў беластоцкім тэатры.

Пасля пачаўся гуказапіс з удзелам акцёраў і публікі, якую дырэктар Мушынскі заклікаў да актыўнага ўдзелу. Дырыжыраваў ён узнімаючы таблічкі з надпісамі: „Воплескі", „Бурныя воплескі", „Урра".

Статысты працавалі з вялікім і нястомным захапленнем, хаця гуказапіс трываў амаль тры гадзіны.

Як толькі аркестр грымнуў „Інтэрнацыянал", усе жвава парваліся з месцаў і з гэтай пары ўставалі, апладзіравалі і равелі „Уррраа!!!" да ўпаду.

Пад канец мерапрыемства дырэктар Мушынскі напамінаў вучня чарнакніжніка, які выпусціў джына з бутэлькі і не надта ведае, як яго загнаць назад. „Państwo polubili te role, czasy akademii majowych się przypominają. Ja rozumiem, że chciałoby się coś zaśpiewać", — заўважыў. „Да здравствует радио Белосток!", — пачуў у адказ з залы.

Праф. А. Даброньскі, міністр па справах ветэранаў вайны, які засядаў у прэзідыуме, выглядаў яшчэ больш збянтэжаным. „Niektórzy za gorliwie krzyczeli", — заўважыў і прапанаваў арганізаваць дзеля раўнавагі нейкае мерапрыемства ў гонар Пілсудскага. Яго словы гінулі ў грукаце крэсел, бо публіка ўжо пакідала залу. Сёй-той, пачуўшы прапанову міністра, перакідаўся задумамі новых хепенінгаў: 1 Мая, акцыя „Вісла" і нават „17 верасня". Безумоўна, было б цікава.

Наглядаючы ўважліва за ходам мерапрыемства, пачынаў я цьмяна разумець лёгкасць, з якою маніпулюецца людской масай. Калі іншыя б'юць у далоні, устаюць і крычаць „урра", дык самому хочацца рабіць тое ж разам з людзьмі. Успомніў святочны колішні першамайскі настрой, а быў жа ж такі. Задумаўся нарэшце пра гэты трыццаць дзевяты год.

Калі саветы прыйшлі ў Заходнюю Беларусь, дык загадалі, цяпер гэта ўжо ведаем з іхніх дакументаў, браць да супрацоўніцтва з ліку тубыльцаў выключна дэбілаў. Цяжка паверыць, але так было. Думаць мелі толькі прышэльцы.

Далучэнне Заходняй Беларусі, хаця раней дамоўленае з Гітлерам, патрабавала нейкага апраўдання перад светам. Трэба было, каб праявілася народная воля. Таму няпраўду гаворыць праф. Судол пра нейкія „кулісы" і „тайны". Стэнаграма Народнага сходу, разасланая была ва ўсе савецкія пасольствы, каб кожны дэмакрат на свеце мог прачытаць, якім дэмакратычным чынам усё адбывалася.

Сцэнарый Народнага сходу запланаваны быў да апошняй дробязі. Бедненькая інсцэнізацыя дзеля патрэбаў радыё ніякім чынам не адлюстроўвала тадышняе багацце. Даволі сказаць, што дзяўчынку, якая ўзняла вокліч „Няхай жыве Беларусь!", тады ўнеслі на сцэну ў вялізным кашы поўным кветак.

Не трэба быць дэбілам, каб, пабачыўшы і пачуўшы такое, устаць і крыкнуць „ура!". А што тут гаварыць пра натоўп „выбраных" тады.

Алег Латышонак

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Удзельнікі і слухачы школьнага дэкламатарскага конкурсу.*

## Брава, „тройка"!

20 студзеня гэтага года ў Бельскім доме культуры адбыўся Цэнтральны агляд дэкламатарскага конкурсу для пачатковых школ „Роднае слова". На сцэне выступалі вучні амаль з усяе Беласточчыны (44 асобы), але найбольш з бельскай тройкі, ажно 14 вучняў. Чаму так многа? У гэтай школе ўсе дзеткі ад I да VIII класаў вывучаюць беларускую мову, а вучыцца там больш чым тысяча дзяцей. Таму шмат вучняў прымае ўдзел у конкурсах.

13 снежня 1994 г. адбыўся школьны дэкламатарскі конкурс, у якім прымалі ўдзел вучні з класаў ад III да VIII. Старшыня камісіі, дырэктар школы Васіль Ляшчынскі, і яе члены Надзея Артымовіч і Валянціна Бабулевіч уважліва выслухалі ўсіх удзельнікаў і мусілі вырашыць, хто з іх будзе прадстаўляць школу ў раённым аглядзе. Не было гэта простай справай, бо ўсе 73 вучні добра дэкламавалі свае тэксты. Пасля доўгіх разважанняў з іх ліку выбралі 31 асобу.

На раённым аглядзе ў Бельску які адбыўся 18 студзеня, выступалі вучні з 11 школ (Бельск, Гарадок, Дубяжын, Краснае Сяло, Маліннікі, Нурэц, Орля, Пасынкі, Рыбалы, Храбалы, Ягуштова). Агляд пачаўся пасля 10 гадзіны. Першымі выступалі дзяўчаткі з Гарадка, а канчалі яго вучні з „тройкі" пасля 13 гадзіны. Агулам прыняло ў ім удзел 76 вучняў. Найчасцей дэкламавалі яны вершы „белавежцаў". Усе ўдзельнікі паказаліся з найлепшага боку. Камісія вельмі-вельмі доўга працавала над іхняй ацэнкай. На цэнтральны агляд вылучыла 14 вучняў з малодшых класаў і 13 са старэйшых.

У час цэнтральнага агляду сцэна была ўпрыгожана вышыванымі ручнікамі і велізарным, больш чым двухметровым букетам васількоў. Крэслы ў доме культуры былі запоўнены да апошняга. Між школьнай моладдзю сядзелі мамы і бабулі, якія перажывалі выступленні сваіх дзетак.

Трэба быць сапраўдным акцёрам, каб не збіцца і выразна, натуральна сказаць свой тэкст, не зважаючы на вялікую публіку, сярод якой паявіліся журналісты з тэлебачання і Беластоцкага радыё. У першай частцы выступалі вучні малодшых класаў. У перапынку перад выступленнямі старэйшых вучняў калектыў „Жураўінка" з бельскай „тройкі" праспяваў некалькі беларускіх і польскіх песень. Усе дзеткі, як малодшыя так і старэйшыя, мелі трапна падабраныя, цікавыя творы. Дамінавалі вершы сучасных аўтараў. Цешыць, што вучні чытаюць новыя кніжкі і часопісы. Сумнае толькі тое, што большасць дэкламатараў не ўмела правільна вымаўляць беларускага „л" і змякчэнняў зычных.

Мне больш падабаліся малодшыя вучні, а найбольш Пеця Лук'янюк з „тройкі" (V„е" клас). Не толькі што не меў клопату з вымаўленнем, але яшчэ і прыгожа, сапраўды па-мастацку дэкламаваў. А вось як ацаніла дэкламатараў камісія. Сярод малодшых вучняў:

I месца — Пётр Лук'янюк і Рыгор Маркевіч (абодва з Пачатковай школы н-р 3 у Бельску);

II месца — Наталька Сушч (Пачатковая школа н-р 3 з Бельска);

III месца — Анэта Леанкевіч, Юліта Муха („тройка") і Кася Аўласюк (Пачатковая школа н-р 6 у Гайнаўцы);

Вылучэнні: Юліта Федарук, Агнешка Сачко (Пачатковая школа н-р 6 у Гайнаўцы), Агнешка Селеванюк і Аліцыя Прафірук („тройка").

Сярод старэйшых выканаўцаў:

I месца — Эва Аксянцюк і Анна Сурэль (Старое Корніна), Анна Хадакоўская (Ягуштова);

II месца — Дарота Кулачэўская, Агнешка Нічыпарук („тройка"), Маніка Браслаўская (Дубіны);

III месца — Галена Сідэвіч („тройка"), Бажэна Селевановіч (Кляшчэлі) і Аня Сідарук (Храбалы);

Вылучэнні: Эмілія Busловіч (Ягуштова), Эва Акачук (Пачатковая школа н-р 2 у Гайнаўцы) і Эвеліна Кучэўская (Нарва).

**Аліна Ваўранюк**
**фота аўтара**



*Вучні класа III„а" са сваёй настаўніцай Мар'янай Федаровіч.*



*Удзельнікі конкурсу з III„е" класа.*

Для самых маленькіх

### Добры воўк

Я ваўку заклею вочы,
каб не бачыў зайку ўночы.
Каб удзень не крыўдзіў зайку,
лапы спутаю кітайкай.

Будзеш слухацца цяпер,
хоць ты страшны, злосны звер.

Воўк, не будзь зайцам пагубай,
я з табой дзялюся супам,
хлебам, кашаю і сокам —
як і я, расці высокім.
Еш, зубасты, мой абед,
меней будзе ў зайкі бед.

Ён стараецца, жуе —
з Ганнай добры воўк жыве!

**Ала Канапель-**

### Доктар Мурзік

У Віталіка ёсць коцік.
Наракае на жывоцік.
Пэўна, ўчора з'еў замнога
Ї цяпер ляжыць, нябога!
— Скажы, кіска, дзе баліць?
Можа, зёлак заварыць?..
Мурзік кажа: — Мяўку-мяў!
Каб я ведаў, каб я знаў,
Сам бы лекарам мог быць,
Усіх знаёмых сам лячыць:
Класці мазі і прымочкі,
Капаць пільна кроплі ў вочкі,
Лапкі, вушкі бінтаваць
Ї рэцэпты ўсім пісаць,
Калі б больш вучыўся ў школе,
Не ганяўся з ветрам у полі!

**Міра Лукша**

# Сталіцы Беларусі

Як ва ўсёй Еўропе, так і на землях сучаснай Беларусі, найперш былі гарады-княствы. З іх пазней паўставалі дзяржавы. У выпадку Беларусі першымі гарадамі-княствамі былі: **Полацк, Смаленск і Тураў**. Выконвалі яны ў IX—X стагоддзях ролю сталіц, гэта значыць палітычных і культурных цэнтраў. Пасля таго, як Тураў і Смаленск трапілі ў часовую залежнасць ад кіеўскіх князёў, **Полацк** застаўся адзіным цэнтрам магутнага беларускага гаспадарства — Полацкага княства. Самае выдатнае палітычнае значэнне ён дасягнуў пры Усяславе Чарадзеі ў XI ст. Век пазней нашчадкі слаўнага князя расславілі сваю сталіцу як культурны асяродак. Гэта было магутнае дасягненне, перад якім карыліся суседнія краіны. Заняпад гэтага княства наступіў пасля раздраблення — падзелу на яшчэ драбнейшыя княствы. На захадзе пачала фармавацца новая беларуская дзяржава — Вялікае княства Літоўскае. Сталіцай яе быў **Навагарадак** (Навгардак).

У 1323 годзе князь Гедымін перанёс сталіцу ў **Вільню**. Была яна сталіцай да канца XVIII стагоддзя, а цэнтрам беларускага палітычнага і культурнага жыцця заставалася аж да сярэдзіны XX стагоддзя.

З утварэннем у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі палітычнай сталіцай Беларусі становіцца **Менск**, якога назву ў 1938 годзе памянялі на Мінск. Усё часцей узмацняюцца патрабаванні вярнуць гораду гістарычную, аўтэнтычную назву Менск.

З-ка

# ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

**Дарагія чытачы „Зоркі"!**

Спецыяльна для вас будзем друкаваць словы самых папулярных і прыгожых песень. Калі ў вас будуць свае прапановы, калі ласка, заяўляйце. Песні падаюцца ў апрацоўцы на гітару.

Сёння прапануем славутую ўжо, незабыўную песню, якая паўстала ў міжваенны час. Аўтарам яе з'яўляецца сам Янка Купала.

**Не пагаснуць зоркі**

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Пакуль неба будзе —
Не загіне край наш родны,
Пакуль жывуць людзі. } 2 х

Ночка цёмная на свеце
Вечна не пануе,
Зерне, кінутае ў ніву
Ўсходзіць і красуе. } 2 х

Беларускімі рукамі,
Светлай праўды сілай
Долю нашую напішам
Бацькаўшчыне мілай. } 2 х

# ЯК МЫ КАЛЯДАВАЛІ



Перад Калядамі на ўроках беларускай мовы мы вучыліся спяваць калядкі. Дапамагаў нам настаўнік рэлігіі Дарафей Фёнік.

9 студзеня 1995 г. на апошнім уроку мы калядавалі сваім сябрам са школы. Узялі батлейку, гвязду і казу і пайшлі па класах. Увайходзілі з калядкай „Добры вечар усім вам" і пасля першай страфы гаварылі: „Мы прыйшлі Хрыста славіці, вашу клясу весяліці, нам і вам вясёлым быці, спяваць вам ці не?" Нідзе нам не адмовілі. Спявалі мы яшчэ іншыя калядкі „Саўка ды Грышка" і „Ой, на моры, моры". Адыходзячы гаварылі: „Бывайце вясёлы, як у небе анёлы". Абкалядавалі шэсць класаў, потым пайшлі пад раздзявальню і спявалі нашым бабкам, мамам і татам, якія прыйшлі за намі. Закалядавалі мы многа цукерак і шакалад, якія тут жа зласавалі.

**Клас III „е" Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім з настаўніцай.**

**Фота Дарафея Фёніка**

# Вясёлы куточак

Урок малявання.

— Што ты нарысавала, Бэатка? — пытаецца настаўніца.

— Афрыканскую вёску.

— Вельмі прыгожа, толькі чаму ў цябе два сонцы?

— Бо там вельмі горача.

* * *

— Што тут дзеецца? — пытаецца маці малога Петруся, які ўзлез на шафу.

— Я і Колік гуляем у амбулаторыю.

— Нічога не разумею?

— Бо Коля ёсць лекарам і накіраваў мяне ў горы падмацаваць сабе здароўе.

* * *

Унучка Бася пытаецца бабулькі Маланні:

— Бабуля, ці памятаеш ты таго мужчыну, які першы цябе пацалаваў?

— Дачушка, я ўжо такая старая, што нават не помню, хто апошні мяне пацалаваў.

* * *

На ўроку літаратуры настаўніца запісала тэму: „Як я сабе ўяўляю працу дырэктара?" Усе вучні ўзяліся пісаць, толькі Марцін сядзіць склаўшы рукі.

— Чаму не пішаш? — цікавіцца настаўніца.

— Чакаю сакратарку.

* * *

Урок геаграфіі. Настаўнік тлумачыць тэму:

— Я вам ужо не раз гаварыў, што Зямля круціцца вакол Сонца.

Янка ўстае і пытаецца:

— Выбачайце, спадар настаўнік, але я ніяк не магу гэтага зразумець. Скажыце, навокал чаго круціцца Зямля, калі Сонца заходзіць?

* * *

Бабуля павучае падрастаючага ўнука:

— Як будзеш добры, то пойдзеш на неба, а як будзеш гультайнічаць, дык апынешся ў пекле.

— Бабка, а што прыдумаць, каб схадзіць у кіно?

Даслаў
Андрэй Гаўрылюк

# ПАДАРУНАК КАРАЛЯ СТУДНІ

*(казка)*

Дарэк, Мірка, Моніка і Тамаш былі неразлучныя. Усюды хадзілі разам. Так было датуль, пакуль не пасварыліся з-за... драўлянай лялькі.

Тамаш хваліўся, што і ён, як яго тата-разьбяр, умее выстругаць драўлянага чалавечка.

— Калі гэта праўда, прынясі нам такую цацку заўтра, — сказаў Дарэк.

Тамаш выстругаў драўлянага хлопчыка і прынёс паказаць яго сябрам.

— Які ж ён прыгажун! — засмяяўся Дарэк. — Толькі чаму ў яго такія крывыя ножкі?

— Не, у яго ногі простыя, толькі ён нейкі захуды, — усміхнулася Моніка.

— А вы зрабілі б лепшага? — усхвалявалася Мірка.

— Мы гэтага не ўмеем рабіць, але і не хвалімся, што ўмеем, — хорам адказалі Дарэк з Монікай.

— Мой чалавечак добры, а вы так гаворыце проста з зайздрасці, — пакрыўдзіўся юны разьбяр.

— Бачыце вы яго, яшчэ і пакрыўдзіўся! Хвалько ты, больш нічога! — крыкнуў Дарэк.

— Нашто на такое штосьці глядзець! Давайце ўтопім такую брыдоту! — Моніка схапіла драўлянага чалавечка і ўкінула ў студню, што стаяла на апусцелым двары, на якім часта сябры гулялі.

— Што ты нарабіла!? — расплакаўся Тамаш. — За такое цябе самую варта ўтапіць! Як так можна?..

Дзеці пабеглі, а Тамаш вярнуўся да студні, зазірнуў уніз, дзе цёмна плёхалася вада.

Мірка старалася супакоіць заплаканага сябра, але ён папрасіў яе, каб пакінула яго аднаго.

Хлопчык стаяў над студняй і плакаў. Найбольш крыўдна было, што ягоную першую працу знішчылі найлепшыя сябры. Нарэшце, змораны, заснуў. Здавалася яму, што ляціць у студню.

Калі адплюшчыў вочы, убачыў побач з сабой прыгожую пару — маладых мужчыну і жанчыну.

— Вітай у нашым каралеўстве, — сказаў мужчына.

— Добры дзень, Тамаш, — сказала пані. — Мы табе вельмі ўдзячны за падарунак нашаму сыну. Ён яшчэ ніколі не меў такой цудоўнай цацкі.

Убег хлопчык з драўляным чалавечкам у руках.

— Мама, тата, я хачу мець яшчэ больш такіх цудоўных сяброў!

— Папрасі Тамаша, каб ён больш такіх чалавечкаў табе прынёс, — адказала жанчына.

— Ты ў нашым вадзяным каралеўстве. Кожны, хто трапляе да нас, прымушаны нам служыць і ніколі не можа вярнуцца на зямлю. Цябе адправім наверх, толькі зрабі нашаму сыну больш такіх цацак, — сказаў кароль студні. — І прымі ад нас заплату, гэты залаты камяньчык. Ён наверсе будзе як звычайны — шэры. Насі яго заўсёды пры сабе, ён дасць табе шчасце.

Тамаш паклаў камяньчык у кішэнь.

Мужчына адчыніў дзверы палаца і сказаў:

— Ідзі да свайго дому...

— Ты што, спіш на калодзежным зрубе?! — Тамаш пачуў усхваляваны голас маці. — Ты ж утапіцца можаш!

— Даруй, мама, я не ведаю, як тут заснуў. Ідзем хутчэй дадому, ужо змяркаецца.

Хлопчык паклаў руку ў кішэнь. Там ляжаў шэры камяньчык, падарунак караля студні...

Падарыў сыну караля студні яшчэ некалькі драўляных цацак. Навучыўся вырэзваць не горш свайго бацькі. Яго скульптуры на выстаўцы юных майстроў ацанілі як найлепшыя.

— Гэта, пэўна, дзякуючы скарбу — падарунку вадзянога караля! — усміхаўся Тамаш.

Ірэна Салавей

# ІКОНЫ

**Частка XXIII**

У значнай большасці адрэзкаў цыкла „Іконы" па сутнасці не выступаў мой каментарый або інтэрпрэтацыя пачутага. І гэта невыпадковасць. Здавалася мне, што аўтэнтычныя сялянскія выказванні маюць істотнае гістарычнае, этнаграфічнае, сацыяльнае і нацыянальнае значэнне і знаёмства з сялянскім аўтэнтызмам павінна быць інспірацыяй да самастойных разважанняў з боку маладога пакалення беларусаў.

У папярэднім адрэзку я выкажыў свой уласны пункт гледжання на іконы і сёння прагну яго пашырыць некаторымі практычнымі прапановамі.

Як я ўжо пісаў, сёння адбываецца страшэнны працэс выкупвання, выманьвання і абкрадання прыватных асоб, святыняў, а нават музеяў з іконаў і такіх сакральных прадметаў як крыжы, кнігі, келіхі, чашы і т.п. Такім чынам апустошваецца наша матэрыяльная і духоўная культура. Тое, што робіцца ў гэтай галіне з'яўляецца рэлігійна-культурнай катастрофай. Многія базары і базаркі ў Польшчы завалены крадзенымі іконамі. Яшчэ некалькі гадоў таму назад гандляры іконамі прадавалі іх з-пад палы, хаваліся. Разглядаліся па баках, ці няма паблізу міліцыі. Сёння ўжо ніхто нічога не баіцца. Іконы красуюцца на раскладаных ложках, скрынках, каструлях. Няма тут нейкага німбу свяшчэннасці ці рэлігійнага настрою. Пануе атмасфера развбэшчанага бізнесу. Беларускія, рускія, украінскія іконы распаўсюджваюцца такім чынам па ўсёй Польшчы. Ды не толькі. Вялікая колькасць ікон вывозіцца за межы і, зразумела, ужо ніколі не вернецца ў месца свайго „нараджэння" і шматгадовага знаходжання. Іконы — прымусовыя перасяленкі, іконы — прымусовыя эмігранткі ніколі ўжо не з'явяцца ў родных беларускіх хатах.

Ратуйма іконы! Якім чынам? Вельмі простым. У Польшчы жыве каля 80—90 тысяч беларускіх сем'яў. Большасць з іх жыве на нядрэнным матэрыяльным узроўні. Кожная з гэтых сем'яў можа купіць адну, дзве ці пяць ікон. Па такім шляху пайшоў і я. На працягу апошніх двух гадоў купіў я, не будучы багатым чалавекам, дванаццаць ікон на дрэве і пяць іконак на медзі. Улічваючы ў калекцыю матчыну ікону, маю сёння трынаццаць ікон драўляных і пяць металічных. Для інфармацыі падаю, што іконы ў Варшаве каштуюць ад 700 тысяч да двух—трох мільёнаў старых злотых. Праўдападобна на беластоцкіх базарах іконы каштуюць значна танней, аднак я ў Беластоку не купіў ніводнай іконы, прынамсі дагэтуль. Можам прыняць тэарэтычную ідэю, паводле якой пяцьдзесят тысяч беларускіх праваслаўных сем'яў купляе па дзве іконы. Дзякуючы гэтаму сто тысяч бясцэнных праваслаўных ікон засталіся б у беларускіх хатах і служылі б справе духоўнага пацяшэння беларускіх сэрцаў. Да куплі ікон заахвочваю таксама духоўных і праваслаўныя прыцаркоўныя рады. Павінны яны выдзеліць грашовыя фонды для гэтай мэты.

Зразумела, што купляць іконы трэба з разборам. Справа ў тым, што базарныя гандляры прадаюць сучасныя малюнкі, зробленыя пад старыну. Асабліва часта паяўляюццыа фальшыўкі на надпаленых дошках. Гандляры для ўзмацнення „аўтэнтызму" гаворань, што гэта старыя іконы, вынесеныя з цэркваў у час пажару. Вядома, што такія падробкі не маюць ніякай вартасці і таму трэба купляць іконы ў прысутнасці асоб, якія ў гэтай справе разбіраюцца.

Што датычыцца мяне, дык намервяюся павольна павялічваць сваю калекцыю з намерам перадаць яе ў канцы канцоў у добра забяспечаную царкву або ў Беларускі музей у Гайнаўцы.

Прагну яшчэ звярнуць увагу на тое, што на польскіх базарах паяўляюцца іконы тыпова праваслаўныя і уніяцкія. Уніяцкія характарызуюцца, між іншым тым, што ў іх, у адрозненне ад праваслаўных ікон, вельмі часта вакол галавы Багародзіцы, замест звычайнага арэола, паяўляецца праменнасць або карона. Ува мне асабіста праваслаўная ніба уніяцкая арыентацыя іконаў не мяняе эмацыянальных адносін да іх. Унія, як вядома, на працягу некалькіх сот гадоў існавала між іншым на Беласточчыне і пакінула прыкметны след у царкоўным будаўніцтве, ва ўнутрыцаркоўным афармленні і, зразумела, у іканапісах. Так адна як і другая арыентацыя належаць да беларускай культурнай спадчыны і не павінны выклікаць ніякай варожай тэндэнцыйнасці з нашага боку ў іх трактоўцы. У маёй скромнай калекцыі побач з праваслаўнай большасцю існуе уніяцкая меншасць і на колькі не памыляюся, мірна яны суіснуюць на сценах маіх скромных пакояў.

Я быў бы шчаслівы, калі б мой зварот адносна набывання іконаў знайшоў адгалосак у беларускіх сем'ях і каб у беларускіх хатах пачалі ўзнікаць большыя або меншыя калекцыі старых абразоў. А калі гэта немагчыма, дык прынамсі адна старадаўняя ікона павінна ўзбагаціць нашы кватэры і нашы хаты. А тыя ўсе, хто яшчэ мае старыя іконы ад бацькоў і дзядоў павінны трактаваць іх як сямейную і нашу нацыянальную рэліквію, якая памагае жыць і кахаць усіх людзей, незалежна ад іх нацыянальнасці і веры. Такія іконы вымагаюць спецыяльнай аховы і пашаны.

**Пастскрыптум.** Месяц таму назад паявіліся ў маёй кватэры паліцыянты з Жалібожа. Здзівіла гэта мяне тым болей, што я жыву на Макатове. Паліцыянты сказалі, што яны злавілі зладзея, у блакноце якога знайшлі запіс: „Aleksander Barszczewski, profesor Uniwersytetu Warszawskiego. Adres: Wałbrzyska 15 — 302. Posiada obrazy". Паліцыянты заахвочвалі мяне ўстанавіць добрыя замкі і застрахаваць кватэру. Як вядома, для зладзеяў няма добрых замкоў. Умеюць яны адкрыць кожны замок. Будзем верыць, што вышэйшая сіла абароніць мае іконы ад злачынцаў.

**Алесь Барскі**




### Іконы

З цікавасцю чытаў я ў „Ніве" выказванні прафесара Аляксандра Баршчэўскага аб іконах. Гэта былі выказванні яго самога і іх размоўцаў. Погляды на так важную справу былі розныя; мелі свае назіранні розныя людзі, якія не адно чулі і бачылі.

На мой погляд аб іконах, іканапісцах і месцах, дзе яны служаць і слухаюць вернікаў, трэба гаварыць богабаязна, з павагай, бо яны ж святыя. Іконы прадстаўляюць святых, да якіх людзі сур'ёзна моляцца. Так, як не дзеля жартаў узносяцца храмы, куды народ хлыне маліцца Богу, каб заслужыць на ласку і магчымае вечнае жыццё.

І гэтак званы просты народ бачыць у іконах сваіх апекуноў, заступнікаў на будучыню, ды душэўную палёгку ў сваім штодзённым бытаванні. Інакш да гэтай святасці падыходзілі некаторыя духоўныя, а асабліва Каталіцкі касцёл у Польшчы.

Калі бацька праф. А. Баршчэўскага расказваў аб тым, што пачуў ад айфрэйтара Івана Сакалова з царскага войска („Ніва" н-р52 (2015) ад 25.XII.1994 г.), то я хачу сказаць, як такое ж чаўплося ў Польшчы, канкрэтна ў Любліне ў 1949 годзе, дзе я прымаў непасрэдны ўдзел.

Я тады вучыўся ў афіцэрскім вучылішчы Корпуса унутранай бяспекі (КБВ) у Легніцы. Было лета, у краіне сяляне гатовіліся да жніва. Наша школа мела заняткі на палігоне ля Баляслаўца. Раптам сігнал: „Спыніць практыкаванні, збор!" Роты па трывозе мігам апынуліся ў месцы, дзе чакаў прыехаўшы з корпуса сівы палкоўнік. „Мусіць аднак пачалася трэцяя сусветная", — загаманіў нехта з нас. „Хіба", — падтрымалі ягоную думку іншыя.

Палкоўнік, не чакаючы на рытуальны даклад вядучага заняткі афіцэра, звярнуўся да падхарунжых са скаргай на рэакцыйны каталіцкі клір, які выдумаў цуд у Любліне, каб адарваць сялян ад жніва, а гэтым самым пазбавіць краіну хлеба і выканання трохгадовага плана.

Мы ўздыхнулі з палёгкай, што гэта толькі цуд у Любліне, а не вайна. Нават крыху ўцешыліся, што адарвемся ад безупынных практыкаванняў, якія выціскалі з нас, будучых афіцэраў, сёмыя поты.

Стары палкоўнік сказаў нам, што ўзгодніў з камендантам школы наш выезд у Люблін для аховы парадку ў горадзе, але хто не хоча ехаць, няхай выступіць з шарэнгаў. Ніхто не выступіў. За некалькі хвілін па ад'ездзе палкоўніка пад'ехалі штудэбэкеры, і мы, пабраўшы сухі правіянт ды табельную зброю, паехалі ў Вроцлаў. Там пераначавалі ў нейкіх казармах поўных клапоў (успамінаю, бо страшэнна нас пакусалі і спаць да раніцы не далі), ды пагрузіліся на цягнік і ў дарогу.

Калі нашыя роты дайшлі да Любліна (дайшлі, бо нас „высадзілі" ў полі, каб не бачылі чужаземныя карэспандэнты давозу ў горад вайсковага падмацавання), мы ўбачылі стан фактычны... Была ноч, але горад шумеў. Кафедральны касцёл, у якім „плакала" Божая Маці, гарэў тысячамі электрычных лямпак, а усе навакольныя вуліцы і наймалейшыя плошчы, дзе толькі можна было паставіць столік, кіпелі гандлем прадметамі рэлігійнага культу. Запамяталася мне, што адбітак любога святога фармату паштоўкі без рамкі і шкла каштаваў 100 злотых. Спекулянты мелі залаты дождж, бо ўсе святасці ішлі як вада.

Завялі нас на плошчу Ваяводскай камендатуры міліцыі, дзе нашу школу сустрэў ваяводскі камендант з белымі пластырамі на твары ды камандзір III Брыгады КБВ з забінтаванай галавой. Коратка расказалі нам аб арганізатарах цуду і ягонай мэце, растлумачылі, што дзеецца ў Любліне і ў краіне.

Тут я ўпершыню даведаўся, як каталіцкія святары карыстаюцца іконамі святых дзеля палітычных і фінансавых інтарэсаў.

Камендант міліцыі менавіта ўсвядоміў нас, што каталіцкі клір задумаў правесці ад вадаправода тоненькую трубку да вачэй абраза Божай Маці і так зрабіў. Паведаміў усю краіну, а эфекты гэтага — убачыце самі.

Ой, убачылі мы, убачылі. Не буду падрабязна апісваць узнікшай сітуацыі, але на тое я ўзяў голас, каб наблізіць чытачам тамашнюю падзею, калі не пабаяліся нават пакарыстацца прафанацыяй абраза Божай Маці, каб толькі скампраметаваць уладу і давесці хаця б да абняжэння ўборкі таго, што ўрадзіла зямля, ды паглыбіць бяду і так беднага народу.

Мы, як элітарная часць, узмоцненымі групамі патрулявалі тэрыторыю вакол кафедральнага касцёла і недалёкія ваколіцы. Многія з нас не маглі вачэй адарваць ад натоўпу людзей, якія плачучы, паўзлі на каленях у касцёл, каб хутчэй убачыць, як за іх няшчасны лёс плача Божая Маці. Не ведаю, ці ўсім, хто прыехаў з Простак, Элку, Гданьска, ці Шчэціна, ды доўгія кіламетры ішоў, а пасля лез, удалося пабачыць „цуд", бо стаялі шпалерамі ксяндзы і семінарысты з мяшкамі ўздоўж паўзучага, вернага народу і паганялі: „Прэндзэй, прэндзэй, не гапіць сен непотшебне, бо інні тэж хцон зобачыць". Гаварылі гэта нават з раздражненнем, бо „галота" не заўсёды праз свае слёзы заўважала „слёзы" Божай Маці, бо ж яны не цяклі ардынарна, як з цэбра, а далікатненька капалі. Упаўзанне ў касцёл і выпаўзанне з яго было менавіта арганізавана шпалерамі святароў і семінарыстаў у такі спосаб, каб нікому з вернікаў не ўдалося выпаўзці не ўкінуўшы грошай у настаўлены мяшок. Вернікі не шкадавалі грошай нават за тое, што дасталіся да Любліна і ўрэшце да мэты — кафедральнага касцёла. Не адзін з іх, вернікаў, мо ўкінуў у мяшок апошнюю сотню, а пасля расчараваўся і мармытаў, што нічога яму не дазволілі ўбачыць, бо „ксяндзы толькі паганялі". Калі група нас, маладых падхарунжых стаяла пад раскладзістай ліпай, бо сонца нагта пякло, з касцёла выцякла на каленях група людзей, апранутая выразна па-вясковаму. Два мужчыны ўсталі з каленяў, абмахнуўшы нагавіцы рукамі і накіраваліся проста да нас, пад дрэва. Сталі, закурылі і... загаварылі па-беларуску: „Баляслаў, скажы, але шчыра, ці ты бачыў нейкі цуд?" Мае сябры зарэагавалі: „О, патшыце, нават русцы пшыехалі". А я ўпершыню пачуў, што сярод праваслаўных выступае імя Баляслаў і паверыў, што праваслаўныя прыехалі на каталіцкі цуд. Тым часам Баляслаў шчыра адказаў сябру так: „Я бачыў прыгожы абраз Божай Маці, але не прыкмеціў яе слёз". „А ты бачыў, каб яна плакала?" — у сваю чаргу запытаў Баляслаў. „Я не бачыў таксама, каб абраз плакаў, — адказаў сябра, — але калі можаш паспець убачыць, як цябе ксяндзы гоняць, бы сабаку".

У гэты момант я іх запытаў, адкуль яны прыехалі і ці многа праваслаўных прыехала?

Яны адказалі, што прыехалі з Сакольшчыны, і што яны каталікі, а не праваслаўныя. „То чаму вы размаўляеце па-беларуску?" — запытаў я наіўна. „Бо мы беларусы, але каталікі".

Я нібы зразумеў, але ім не паверыў.

Гэты спектакль трываў некалькі тыдняў паміма просьбаў розных улад, кіраваных да мясцовых іерархаў і вышэй. Калі гэта не памагло, зайшло ў касцёл некалькі працаўнікоў бяспекі, адрэзалі правадок ад водаправода і „цуд" закончыўся. Ксяндзы пакрычалі, пакрычалі на бяспеку за бальшавіцкае ўмяшанне ў іхнія справы і перасталі. Я думаю, што гэта было нават ім на руку, бо мэту дасягнулі, ды і пры нагодзе дасталася камуністычным уладам за скіраванне органаў бяспекі ў святое месца.

А вось выпадак, які я перажыў дзіцём у сваёй хатцы. Менавіта ў нас абнавілася іконай Божай Маці. Хаця я нічога не бачыў, але памятаю, як у нас на пакудзеллі аб гэтым жанчыны размаўлялі. Не магу толькі зразумець, чаму яны сказалі, што абраз Божай Маці не астаўся сіметрычна ў рамцы, так як быў апраўлены, а нейк бокам, бо на крык хатніх аб абнаўленні іконы, прыбег да нас баптыст-сусед і пальцамі сунуў у вобраз. Ці ж гэта мела значыць, што Маці Божая паварушылася?

**Васіль Петручук**




*БАРЫС РУСКО*

**У цемры**

З вузкіх вуснаў вуліцы
сочыцца пах сажы.
А ноч густая, бы брук.
І месяц глядзіць на рукі.
А свіст з грудзей
разрывае тратуар.
І скрыгат хуткай
дапамогі побач.
А біфштэкс смажыцца
ў гарачых мазгах,
і заўжды спознена,
і па віне саламандраў
сканаўшых у мезазоіку.

**Alma Mater**

Розныя мовы
ў адной кнізе,
і думкам конкурс
адкрыты заўсёды.
Прафесар слова
усюды прысутны,
як паказальнік дарог
на ростані.

**Белавежская эпітафія**

Ці гэта песня пушчы
сінябародай,
бясконцае вяртанне
з альтанкі пацалункаў?
У чароце памяці
заблыталіся ноты.
І голы я,
як сённяшняя пыха.
Дзе, Розуме,
тваё сумленне?
І сэрца дзе,
што стукае ў Сэрцы?
І вочы зоркія
і пільныя?
Няўжо даспела, пушча,
ты да смерці?
Няўжо каронамі
дабралася да неба?
Мастак не разумее
тваёй мовы,
турыст уцякае
ад спрадвечных ценяў,
а ты ў немачы жабруеш
глыток вады крынічнай
на каленях.
Душу сваю за бесцань
прадала ўжо
і на алтар узлажыла
аднаўлення...
Скрыпяць апошнія
над фальшам словы,
і ссечаных дрэў эпітафія
стагоддзі крышыць
на кавалкі.

## Чыя б карова рычала, дык няхай іхняя маўчала б

Ёсць людзі, якія з ног да галавы лаюць „Салідарнасць", урад, Валэнсу. Іх папраўдзе, як мы ўсе перакаканаліся, і няма за што хваліць. У „Салідарнасці" цяпер служаць былыя камуністы і заядлыя клерыкалы. Але гэтым людзям, што так лаюць „новы парадак", матэрыяльна нядрэнна вядзецца. Штомесяц дастаюць яны пенсіі ад чатырох да шасьці мільёнаў. Іхнія дзеці працуюць, і то не на дрэнных пасадах. Альбо ў вышэйшых школах вучацца.

Лаюць як могуць рэчаіснасць. Лаюць усе газеты, якія я па вёсках прадаю. Даспадобы ім толькі Урбан і яго дурная газета „Не". Цімашэвіч ужо ў іх „падпаў", і то смярдзюча. Як тут зразумець псіхіку і розум такога чалавека?

Помню, як адзін такі асобень, што так публічна валіў на „Салідарнасць" і на Валэнсу (і надалей тое робіць), хацеў аформіць свайму дзецюку (ужо дарасламу, пасля школы) добрую пасаду. Патрэбная была яму характарыстыка ад „Салідарнасці". Ён аднак не разгубляецца, едзе ў Дубічы-Царкоўныя на сход тамашняй „Салідарнасці", якая заступіла Гмінны камітэт ПАРП, і просіць, каб тая падтрымала яго дзецюка і дала добрую характарыстыку. Тыя, а як жа, далі, хаця ведалі, што ён іхні вораг.

З характарыстыкай ад „Салідарнасці" без праблем усадзіў ён сына на добрую працу (напэўна колішнія таварышы таксама дапамаглі). А пасля смяяўся, што ён усіх і ўсё „мае дзесь". Вось такая падзяка. Асцярожна з такімі людзьмі, бо такі прадасць цябе і грошы палічыць.

Ведаем, што цяпер цяжка жывецца простаму чалавеку, але не такім, як вышэйзгаданы. Мо хто з чытачоў падумае, што яны так шкадуюць людзей, а яны так усіх нас шкадуюць, як рак жабу. Яны толькі сябе любяць і то мо ўсяго адзін раз у год. Старая пагаворка ясна гаворыць аб такіх людзях: чыя б карова рычала, але іхняя маўчала б!

**Мікалай Панфілюк**

## Ольштынскі Тыдзень малітвы за еднасць хрысціян

Арганізатарам гэтага Тыдня была Экуменічная рада ды Экуменічная камісія Вармінскай архідыяцэзіі. Пачаўся ён 19 студзеня імшой у касцёле Хрыста Адкупіцеля Чалавека, якую служыў уладыка Яцэк Езерскі, а гамілію сказаў канцістар Мазурскай дыяцэзіі Аўгсбурска-евангелічнага касцёла Францішак Дуда.

XIII Экуменічны сімпозіум арганізаваў Інстытут хрысціянскай культуры ў Ольштыне. Была м.інш. прадстаўлена статыстыка Каталіцкага касцёла на Варміі да вайны і сёння. Ад 1945 г. каталікі перанялі ад евангелікаў 89 касцёлаў Вармінскай архідыяцэзіі, з чаго 56 касцёлаў гэта цяпер самастойныя парафіі, 30 — гэта філіяльныя касцёлы, тры ёсць маёмасцю візантыйска-украінскага касцёла, а 49 касцёлаў пайшлі ў руіну пасля вайны.

Вечарам у касцёле Найсвятога Сэрца Хрыстовага адслужылі імшу за ўпакой душ салдат розных франтоў, ахвяр вайны і прымусовых перасяленняў. У гаміліі прагучалі словы, што сапраўдны мір запануе ў свеце, калі чалавек будзе паміраны з Богам, іншым чалавекам і сам з сабою.

У нядзелю, 22 студзеня, у царкву, што ў Ольштыне знаходзіцца па вуліцы Войска Польскага, прыбыло шмат вернікаў. Літургію святога Іаана Златавуста служыў айцец протаіерэй Аляксандр Шаломаў. Багаслужба была прысвечана ахвярам Асвенціма. Вечарам набажэнства служылася ў евангелічным касцёле. Наступнага дня ў касцёле айцоў капуцынаў багаслужбу вёў лютэранскі пастар. У аўторак можна было паслухаць даклад пра дзейнасць Рускай праваслаўнай царквы, з якім выступіў уладыка смаленскі Панцеляймон.

Апошні дзень Тыдня малітвы закончыўся імшой у касцёле св. Язэпа.

Экуменічны рух мае за мэту ўзаемнае пазнанне веруючых у Ісуса Хрыста, пераадоленне нарослых стагоддзямі прадузятасцяў і крыўдаў. Супольная малітва павінна даць плён у супрацоўніцтве ў дабрачынных і культурных акцыях.

**Андрэй Гаўрылюк**

# СОН

Іду алейкай абсаджанай прыгожымі дрэвамі. Пахне вясеннім лесам. Сонца свеціць, птушкі спяваюць. Перада мною клумба абсаджаная цудоўнымі кветкамі. Пасярэдзіне клумбы стаіць агромністы кацёл. Побач вялізны змей полымем з ноздраў все на пасудзіну. З катла дабываецца скрыгат і ляскат зубоў. Апынаюся побач і бачу, што змей мае галаву нашага Вялікага Паэта, чорную, як эбенавае дрэва. На галаве шлем вікінгаў з рагамі скручанымі дазаду.

— Палымяна заахвочваю, каб купляць старыя іконы для беларускіх музеяў. Хай стануць нашымі святынямі! — усклікнуў.

З катла зноў раздаўся страшны ляскат зубоў. Заглянуў я туды і ўбачыў, што булькаецца там у смале мноства народу і страшэнна трасецца ад холаду. Ува ўсіх выступіла гусіная скура, а аднаму Вялікаму Пісьменніку нават пер'е вырасла і час ад часу мог ён адарвацца ад мас і пабуяніць у хмарах.

— Нягоднікі, — прадаўжаў Паэт, — абліваюць мяне ўвесь час смалою; ад яе і ад дыму з ноздраў я такі і чорны. Але я на зачэпкі авантурнікаў не рэагую. Зайздросцяць яны мне маіх поспехаў. Вось абыякава адносяцца да майго палымянага заклiку. Затое бізнесмены з Беларусі адразу вынюхалі кан'юнктуру і, прадбачваючы аграмадны попыт на іконы ў Польшчы, абчысцілі з іх усе храмы ў Беларусі. У сувязі з выхадам на рынак ста тысяч святых абразоў, прэзідэнт Лукашэнка дзеля захавання рыначнага парадку выдаў указ, у якім устанавіў цэны: 19 950 „зайчыкаў" за адну ікону ў Беларусі і ў Маскве, 24 950 — у блізкім замежжы і 29 950 — на астатняй тэрыторыі. На вялікі мой жаль, паліцыя ў іншых дзяржавах палічыла гэтую акцыю святатацтвам, бізнесменаў — зладзеямі і рэкецёрамі, а мяне — скупшчыкам крадзенага і зводнікам да незаконных учынкаў. Інтэрпол разаслаў вышуковыя лісты за мною, а мой вышуковы партрэт апублікаваны ў адным беларускім календары.

Размоўца мой спыніўся, каб набраць паветра для далейшай тырады. Я падняў вочы і ўбачыў, што з катла выглядае многа цікаўных з аквалангамі на насах. Над катлом праляцелі два вусатыя анёлы.

— Хочу соединиться с Россией, но не могу! — пракрычаў адзін.

— Я не кцэм але мушэм! — крыкнуў другі.

А я прачнуўся.

**Адам Маньяк**

# Яшчэ аб чараўніках

Разам з маёй мамай працаваў на чыгунцы мужчына з Белавежы. Усім расказваў пра адно здарэнне. Перад вайной, быўшы маладым хлопцам, пагнаў з сябрам коней на начлег. Трэба было ім праязджаць каля нейкай старой каплічкі. Там ужо не адпраўлялі службаў (можа, хтосьці з жыхароў Белавежы памятае гэтае месца?). Хлопцы ехалі, размаўлялі, і раптам глянулі ў бок капліцы. А там — адчыненыя дзверы, гараць свечкі, і шмат святароў ходзяць па храме, трымаюць кадзільніцы, махаюць імі, кланяюцца адзін аднаму!..

— Пачакай, — кажа сябра, — я пайду туды і пагляджу, адкуль там яны ўзяліся.

Не давялося доўга чакаць. Як толькі хлопец падышоў да дзвярэй капліцы, усё стала як раней: свечкі згаслі, дзверы зачыніліся. Пераляканы хлопец адмовіўся ехаць далей на начлег і не хацеў казаць, што ў сапраўднасці паспеў убачыць у капліцы. Нікому нічога не расказваў, нават бацькам пра тое, што ўбачыў. Другога юнака ў гэту ноч нішто не палохала.

У сяле П. жыла старая жанчына. Усе ведалі, што яна з д'яблам знаецца. Жыла не вельмі багата, але зрабіць сваімі чарамі біду людзям умела. Аднойчы пасварылася з ёю суседка. Пайшла тая даіць карову, і вачам сваім не верыць: малако цыркае, але ў вядры толькі конскі помёт! Ведала, хто такі мог ёй такога нарабіць. Прыйшлося ісці да ведзьмы, прасіць у яе прабачэння. Тая не была занадта ганарлівая і пагадзілася з суседкай, якой карове зноў вярнулася нармальнае малако. Некалькі месяцаў перад сваёй смерцю чараўніца запрасіла ўсіх сваіх блізкіх і далёкіх сваякоў на велікодную гасціну. Ніхто не адказаўся, усе баяліся гневу старой. Як толькі ўвайшлі ў хату, убачылі, што ножкі ўсіх сталоў і крэслаў перавязаны накрыж чорнымі стужкамі. Усе насцярожыліся ды маўчалі. Калі ўсіх пасадзілі за сталы ды налілі гарэлкі ў кілішкі, здарылася дзіва: усе кілішкі разляцеліся на часткі, гарэлка выхлюпнулася на сталы, а потым усё зноў вярнулася да папярэдняга стану.

— Ой, бабо, а гэта што такое?! — спалохана закрычалі пляменнікі чараўніцы.

—Нічога. А ну яго! Няхай яно на мне і звядзецца! — адказала старая.

Пасля таго гасціна працягвалася без такіх дзіваў.

Калі чараўніца памірала, нічога са сваіх вядзьмарскіх ведаў нікому не перадала. Цяжка ёй з гэтым усім жылося...

У будынку, дзе дзесяць гадоў да ліквідацыі перагрузачнага пункта ў Семяноўцы працавала мая мама, пачало было нешта стукаць у дзверы. Першая перакаканалася аб гэтым якраз мая маці.

Быў марозны зімовы дзень, усё сыпаў снег, дзьмуў моцны вецер. Удзень на працы як заўсёды — шмат грузчыкаў і брыгадзіраў, пасля заставаліся толькі працаўнік, які пералічваў вагоны і правяраў дакументы ды старэйшы брыгадзір. Мая мама не выходзіла на рампу, бо не было такой патрэбы. Хто закончыў сваю змену, хто застаўся, стаяў яшчэ пры вагонах. Старэйшы брыгадзір пайшоў паглядзець на рампу, ці ўсё ў парадку з вагонамі і ці трэба падагнаць новыя да перагрузкі. Мама занялася сваёй работай. Раптам нехта застукаў у дзверы. На пытанне, хто там, не атрымала адказу. Штосьці стукала далей. Маму гэта знервавала, і пачала лаяць нахабніка. Тады нешта як не загудзе, як не пойдзе па прыступках і як не грукне дзвярамі на першым паверсе! Мая маці зразумела, што гэта можа быць толькі нячыстая сіла, пачала маліцца, і ўсё заціхла. Расказала пра ўсё іншым працаўнікам, але ніхто не хацеў верыць. Але хутка перакаканаліся людзі з начной змены, што так яно сапраўды і ёсць. І днём стукала, а за дзвярамі нікога не было. Пасля, калі было вядома, што праз тры месяцы будуць ліквідаваць прадпрыемства, людзі казалі, што гэта хтосьці, каго калісь тут, можа, пахавалі, даваў знак, што ўсе адыдуць з гэтага месца...

У аднае жанчыны была суседка-чараўніца. Усё нешта падкідала ёй у двор, а калі наведвала хату, то ўсе куткі абыходзіла, стукаючы нагой. Аднойчы ўкінула суседцы ў агарод сухую жабу. Жанчына знервавалася, згаварыўшы тры разы „Ойча наш", аднесла тую жабу чараўніцы ў ейны агарод. Пасля ў тым агародзе ўсё высахла, хаця ў тое лета не было засухі. Сама чараўніца таксама схуднела, расхварэлася. І перастала займацца чарамі, падкідаць суседцы розныя штукі на падворак...

**Аўрора**




Астроне, як сам ведаеш, я ўжо старэйшая, сямідзесятка мне ўжо стукне неўзабаве. А вось у сне я вярнулася ў часы сваёй маладосці — сумнай, бо прыпала яна на гады акупацыі. Вывезлі мяне, як і многіх маладых, на прымусовыя работы. Там я працавала ў немца. У час бамбардзіроўкі прапала ўся мая вопратка. Не ведаю, што з ёю сталася. І вось сніцца, што знаходжуся ў вялікай зале. І бачу, ляжыць мая вопратка — на купцы зложаная, так як складала я яе калісьці. Я падышла, узяла тую вопратку, улажыла ў торбу. Але побач з тою вопраткай ляжала капуста — вялікія галоўкі і малыя. Я тую капусту палажыла ў другую торбу і прыкрыла шматкамі. Іду я з гэтымі торбамі па калідоры. Раптам бачу, няма торбы з вопраткай, асталася толькі тая, што была з капустай. Я пайшла далей і апынулася ў сваёй роднай вёсцы Прыбудкі. Я ўжо больш сарака гадоў там не жыву. Адна браціха з сям'і яшчэ там жыве. У родную хату занесла я тую капусту, думаю, прыдасца.

На другую ноч прыснілася, што я ізноў у тых жа гаспадароў-немцаў. Немка мяне выганяе з хаты. А вопратка ў пакоі застаецца. Я хачу, каб яна мне яе аддала. Але не ведаю, як па-нямецку паліто называецца. І пабегла я, а вопратка асталася. Бачу, а тут чыгуначная станцыя. Едуць паязды. Мне трэба праз насып перабегчы, паміж паяздамі. Вельмі цяжка праскочыць. Але ўрэшце ўдаецца мне перабегчы рэйкі і пабегла я далей.

**Кацярына**

Кацярына! Твае сны нядобрыя. Першы сон ужо гаворыць аб нейкіх непрыемнасцях, бо ты вярнулася ў сне да ваенных часоў, згубіла вопратку але ж найгоршая тая капуста — папярэджвае яна пра нейкія сямейныя непрыемнасці, хваробу ці страту.

І той другі сон — пра цягнік і рэйкі, пераконвае ў тым, што пагражае табе нейкая небяспека. Думаю, што ты яе пераадолееш, бо рэйкі ж перайшла.

**Астрон**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 401. Віталь Луба (Беласток) | — 6 зл. |
| 4 402. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 15 зл. |
| 4 403. Андрэй Волчак (Запцэнь) | — 10 зл. |
| 4 404. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 405. Працаўнікі Беларускага музея ў Гайнаўцы | — 43,74 зл. |
| 4 406. Удзельнікі навагодняй вечарыны | — 1 260 зл. |
| 4 407. Анна і Пётр Голуб (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 408. Мікалай Суліма (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 409. Васіль Сакоўскі (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 410. Ніна Прыступюк (Гайнаўка) | — 6 зл. |
| 4 411. Юльян Казбярук (Гайнаўка) | — 10 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

# ВІРАВАНКА




1. бязлесная прастора, 2. вершаваны твор на гістарычную тэму, 3. падбярозавік, 4. вялікі горад у ЗША, 5. пасудзіна для заварвання чаю, 6. горад у Маньчжурыі, 7. любіцель, 8. чарада, 9. тайна, 10. жахлівае, цяжкае здарэнне, 11. мохавае балота, 12. касцельны музычны інструмент.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на калядны касяк з 2 н-ра:**

Направа: Рахіль, Сінатра, дзеянне, каляда, рана, небасхіл, Вафуіл, Кандагар (Кандахар), трабант, Віфлеем, Апіс, Эйр, арба.

Налева: расада, Хенгела, літанія, Кана, Равека, любата, Нафанаіл, дастатак, Іраклій, Віфанія, Агей, эта, рыба.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Мікалаю Красоўскаму з Бельска-Падляшскага і Лукашу Пацэвічу з Беластока.

# Пенсіянеры — актыўныя!

У Нараўчанскай гміне актыўна дзейнічае Саюз пенсіянераў і інвалідаў. Арганізацыя існуе дзесяць гадоў, — гаворыць старшыня гміннай арганізацыі **Лявон Дударык**. — На пачатку было 45 чалавек а зараз — 146.

Песіянеры ахвотна ездзяць на краязнаўчыя экскурсіі. Апошняя такая паездка адбылася на мазурскія азёры.

У 1994 годзе члены Саюза пенсіянераў арганізавалі Дзень сеніёра, танцавальныя вечарыны, сустрэчы ў ГОКу. Старэйшыя людзі не ходзяць на дыскатэкі. Яны найбольш ахвотна танцуюць пад гукі аркестра, так як калісьці гэта бывала ў гады іх маладосці.

З 1 студзеня 1995 года ў Нараўцы пачало дзейнічаць Гміннае праўленне Саюза пенсіянераў, рэнтыстаў і інвалідаў. У студзені адбылося некалькі забаўляльных культурных мерапрыемстваў — балі, танцавальныя вечарыны ды „куліг" па Белавежскай пушчы — з Нараўкі ў Масева.

**(яц)**

# Час сініц і каралька

Як дапамагчы зімою птушкам, якія жывуць у нас увесь год у кустах і гушчарах? Належаць да іх сініцы, якія кормяцца галоўным чынам насякомымі. Найчасцей у нас сустракаецца сініца вялікая, якая адрозніваецца зялёным апярэннем зверху. Разам з сініцамі можна сустрэць і каралька, невялічкую зеленкаватую птушку, якая часта „вісіць", трапечучы крыламі, сярод хвоевых або елачных галін. Сініца даўгахвостая мае белае апярэнне галавы і доўгі хвосцік, якім напамінае папугая. Будуе яна гнёзды ў кустах у форме яечка з уваходам збоку. У хваёвых лясах і зарасніках можна таксама сустрэць сініцу чубатую і сініцу чорную, якія ад вялікай адрозніваюцца і велічынёй, і афарбоўкай апярэння. Сярод лісцевых дрэў жыве сініца блакітніца, якая мае сінюю шапачку і такі ж хрыбет.

Усе сініцы зімою ахвотна наведваюць кармушкі. Можам ім пакінуць кусочкі нератопленага сала, зярняткі сланечніка, агрызкі яблык або вараную агародніну, напр. моркву. Можам таксама пасыпаць аўсяныя шматкі (платкі), памазаныя алеем або маргарынам. Усе птушкі любяць яшчэ вараныя бульбяныя лупіны.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Жыццёвыя высновы

Большасць мужчын трактуюць дом як гатэль, жонку — як кепскую пакаёўку, а дзяцей — як пабочны прадукт сексу.

* * *

Хто міла пазірае табе ў вочы і зачаста цябе абдымае, хутка можа цябе прадаць.

* * *

Няма дзяцей — няма клопату.

* * *

У сямейным жыцці
блізка ад слоў да кулакоў.

* * *

Мода і краса хутка прамінаюць.

* * *

Не заўсёды той, хто ходзіць у лахмоцці — бядняк, а той, што ходзіць у дарагой вопратцы — багаты.

* * *

Найлепш выходзіць той,
хто апошні лезе ў бойку.

* * *

Дзіця зайздросціць даросламу,
дарослы — дзіцяці.

* * *

Няма такога ладу ў свеце,
каб зніштожыў гора.

* * *

Разумны цэніць вартасць грошай, але багаты не мусіць ведаць вартасць ведаў.

* * *

Кепска адчувае сябе дарослы вучань, калі ў школе жыцця ставяць яму нуль.

**Аўрора**




**Радаслаў**

Спіць мой унучак Радаслаў.
Расці, дзетка, нам на славу —
Маме, тату і бабульцы,
Каб хвалілі ўсе ў аколіцы.

Многа пі ты малачка,
Каб разумнай была галовачка;
Будзеш у школе добра вучыцца,
Мы ўсе будзем табой ганарыцца.

Калі будзеш ужо хадзіці
І з бабулькай гаварыці,
Буду я цябе вучыці,
Як за ўсё Бога хваліці.

Ты цяпер такі маленькі,
І так вельмі даражэнькі.
Калі вырасцеш, я не знаю.
Добра будзе, як дачакаю.

**ІДА**

# З нашага жыцця

Лістаноша прынёс пенсію Івану.
— Якімі вам даваць? Новымі, ці старымі?
— Давай старыя, усё ж іх больш, — адказаў стары.

* * *

— За папярэдняй улады было ўсё. Работа шукала людзей, а цяпер яны яе шукаюць ды знайсці не могуць. Куды ж усё дзелася? — наракае Юлік.
— Усё ж ёсць. Хочаш, будуй сабе фабрыку. Будзеш сабе фабрыкантам, будзеш мець такую працу, — раіць яму Мікола.

* * *

— Бадай іх бы ліха якое ўзяло — маіх жонку, дачку, матку і свякруху! — кляне Міхал. — Як толькі вып'ю, то за мяне бяруцца! А то ім каўбасу купляй, то цукар!!! Што, я сабе страўнік гарэлкай спалю?! Я?! Раз мая баба сказала: „Еш там, дзе табе піць даюць! І хай цябе там абшываюць ды абмываюць!" Бач ты яе, чартоўку!
— Не ўмееш ты жыць, Міхал, з бабамі! — дзівіцца Максім. — У дзень зарплаты купі ім усім па шакаладзе, прынясі дадому пляшку гарэлкі і выпі з імі, з тымі тваімі бабамі. Паглядзіш яны на цябе з большай ласкай, праўду табе кажу!

* * *

— Выйграў, я чуў, ты ў латарэі?
— Ага, выйграў, але з кішэні.

* * *

— Што мне рабіць, калі заўважу, што нехта за мною ходзіць? — пытае сяброў Марына, што збіраецца ехаць у сталіцу з вялікімі грашамі на пакупкі.
— Пакажы, што нічога не бачыш, і пастарайся апынуцца за тымі, што за табой ідуць, — параіў Яўген.

* * *

— Вы толькі добра прыбярыце ўва ўсім будынку, бо тут столькі бруду, будзе з цэлага месяца, — кажа кіраўнік новай прыбіральшчыцы.
— Я нічога не ведаю аб гэтым брудзе. Я тут працую ўсяго тыдзень.

**Аўрора**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33 (od 18 lutego — 421-033).

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пароды

*заўсёды ззаду цярпліва падстаўляе*
*перад*
*прымае ў сваё цела чужую фарэмнасць*
*і толькі ўпартае крэсла*
*з характарам моцным*
*злосна выкіне госьця што намуляў*
*мейсца*

**(Міра Лукша, крэсла)**

**лава**

заўсёды лава цярпліва падстаўляе
перад
прымае ў сваё цела чужую
фарэмнасць
трыквартальная этна з характарам
моцным
злосна выкіне госця што намуляў
месца

**Адам Маньяк**

## Думкі ўслых

* Чытаў у думках, а там словы, словы, словы...

* Увесь свой эратычны тэмперамент прысвяціў падлізванню.

* Тое, што нехта не ведае матэматыкі, не абазначае яшчэ, што ён гуманітарый.

* З-за празмернай колькасці таблетак, якія насіў пры сабе, стаў атлетам.

**Адам Сяменчык**






Мал. Леаніда Разладава

## Смех у санаторыі

Злачынца, які сядзіць у турме ўжо тры гады, паспеў пасябраваць са стражнікам. Аднойчы стражнік кажа:

— Маю дрэнную вестку: заўтра цябе павесяць. Перад тым спытаюць цябе пра апошняе пажаданне. Маю да цябе ў сувязі з гэтым вялікую просьбу.

— Якую?

— Скажы, каб мне павысілі зарплату.

* * *

Здароў, Грыша! Чуў, што атрымаў развод.

— Так, гэта праўда. Жонка ўзяла дзяцей, а я самаход.

— А што з рэштай маёнтку?

— Рэшту ўзяў адвакат.

* * *

Брэжнеў пасля смерці папаў у пекла. Дзяжурны чорт, улічваючы вялікія заслугі новапрадстаўленага, дазволіў яму скарыстаць з выбару пякельнага дэпартамента. Ідуць яны цераз залы, у якіх грэшнікі варацца ў катлах са смалою. Брэжневу гэта ўсё не падабаецца. Уваходзяць у салон, у якім на мяккім фатэлі сядзіць Сталін і трымае на каленях Мэрлін Манро.

— Вось тут хацеў бы адбываць кару! — узрадаваўся Брэжнеў.

— Гэта немагчыма, — адказвае дзяжурны чорт, — гэта кара для Мэрлін Манро.

* * *

Дырэктар установы заглянуў у зал машыністак. Са здзіўленнем заўважыў, што адна з іх друкуе адным пальцам і з цяжкасцю шукае кнопку, у якую трэба ўдарыць.

— Паводле якога метаду вывучалі вы друкаванне на машынцы?

— Паводле біблейнага.

— Гэта значыць?

— Шукайце, а знойдзеце.

* * *

У вагоне першага класа едуць два пасажыры. Калі яны пазнаёміліся, адзін з іх кажа:

— Я многа пра вас чуў, пане дырэктар...

— Магчыма; толькі нікому гэтага не ўдасца даказаць.

* * *

Суддзя да абвінавачанага:

— Ці прысягаеце, што будзеце гаварыць праўду і толькі праўду?

— Так.

— Тады што можаце сказаць у сваю абарону?

— Пры такіх умовах? Пры такіх абмежаваннях!

* * *

У запоўнены аўтобус уваходзіць з цяжкасцю мужчына. Праз хвіліну вымае адно вока і пачынае падкідаць угору.

— Што вы робіце з гэтым вокам!? — абураюцца пасажыры.

— Выглядаю, ці няма дзе вольнага месца.

* * *

Гутараць дзве суседкі:

— Я то не бегаю ад кватэры да кватэры і не разношу плётак.

— А я то нават і не ведала, што вам устанавілі тэлефон.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

*Антон Чэхаў*

## РАЗМАЗНЯ

На днях я запрасіў да сябе ў кабінет гувернантку маіх дзяцей, Юлію Васільеўну. Трэба было палічыцца.

— Сядайце, Юлія Васільеўна! — сказаў я ёй. — Давайце палічымся. Вам, напэўна, патрэбны грошы, а вы такая цырымонная, што самі не спытаеце... Ну-с... Дамовіліся мы з вамі па трыццаці рублёў у месяц...

— Па сарака...

— Не, па трыццаці... У мяне запісана. Я заўсёды плаціў гувернанткам па трыццаці. Ну-с, пражылі вы два месяцы...

— Два месяцы і пяць дзён...

— Роўна два месяцы... У мяне так запісана. Значыць вам, належыць шэсцьдзесят рублёў... Вылічыць дзевяць нядзель.., вы ж не займаліся з Колем у нядзелю, а гулялі толькі... ды яшчэ тры святы...

Юлія Васільеўна ўспыхнула і зацерабіла аборачку, але... ні слова!..

— Тры святы... Далоў, выходзіць, дванаццаць рублёў... Чатыры дні Коля хварэў і не было заняткаў... Вы займаліся з адной толькі Варай... Тры дні ў вас балелі зубы, і мая жонка дазволіла вам не займацца пасля абеду... Дванаццаць і сем — дзевятнаццаць. Вылічыць... застанецца... гм... сорак адзін рубель... Правільна?

Левае вока Юліі Васільеўны пачырванела і напоўнілася вільгаццю. Падбародак яе задрыжаў, яна нервова закашлялася, засмаркалася, але — ні слова!..

Пад Новы год вы разбілі чайны кубак са сподачкам. Далоў два рублі... Кубак каштуе даражэй, ён фамільны, але... Бог з вамі! Дзе наша не прападала? Пасля-с, па вашаму недагляду Коля палез на дрэва і парваў сабе сурдучок... Далоў дзесяць. Пакаёўка таксама па вашаму недагляду ўкрала ў Вары боцікі. Вы павінны былі за ўсім глядзець. Вы жалаванне атрымліваеце. Значыць, далоў яшчэ пяць... Дзесятага студзеня вы ўзялі ў мяне дзесяць рублёў...

— Я не брала, — шапнула Юлія Васільеўна.

— Але ў мяне запісана!

— Ну, няхай... добра.

— З сарака аднаго вылічыць дваццаць сем — застанецца чатырнаццаць.

Яе вочы напоўніліся слязамі... На доўгім прыгожанькім носіку выступіў пот. Бедная дзяўчына!

— Я адзін раз пазычыла. — Я, ў вашай жонкі ўзяла тры рублі. Больш не брала...

— Так? Бач ты, а ў мяне і не запісана! Далоў з чатырнаццаці тры, застанецца адзінаццаць... Вось вам вашы грошы, шаноўная! Тры, тры, тры... адзін і адзін... Атрымайце-с!

І я падаў ёй адзінаццаць рублёў... Яна ўзяла і дрыжачымі пальчыкамі засунула іх у кішэню...

— *Мерсі*, — прашаптала яна.

Я ўскочыў і захадзіў па пакою. Мяне ахапіла злосць.

— За што ж *мерсі*? — спытаў я.

— За грошы...

— Але я ж вас абабраў, чорт вазьмі, абабраў! Я ж украў у вас! За што ж *мерсі*?

— У іншых месяцах мне зусім не давалі...

— Не давалі? І не дзіўна! Я пажартаваў над вамі, жорсткі даў вам урок... Я аддам вам усе вашы восемдзесят. Вось яны ў канверце для вас прыгатаваныя! Але хіба можна быць такой кіслячінай? Чаму вы не пратэстуеце? Чаго маўчыце? Хіба можна на гэтым свеце не быць зубастай? Хіба можна быць такой размазнёй?

Яна кісла ўсміхнулася, і я прачытаў на яе твары: „Можна!"

Я папрасіў у яе прабачэння за жорсткі ўрок і аддаў ёй, к вялікаму яе здзіўленню, усе восемдзесят. Яна нясмела замерсікала і выйшла... Я паглядзеў ёй услед і падумаў: лёгка на гэтым свеце быць моцным!

**Пераклаў з рускай мовы**
**Валерый Бабей**




Мілае Сэрцайка! Пішу табе ў адной далікатнай справе — можа, і не зусім выпадае нават. Але мушу з табой падзяліцца, якія бываюць жанчыны.

У мяне ёсць знаёмая, з якой я прыязнілася шмат гадоў. Верыла ёй, як сабе. Жанчына ўжо была ў гадах, ёй было пад шэсцьдзесят, але выглядала надта молада і была здаровая. Ну, і яе кавалер быў па ёй — высокі, статны і... на пятнаццаць гадоў маладзейшы. Быў ён ёй бязмежна адданы, нягледзячы на розніцу ва ўзросце.

Я, калі выязджала з дому, заўсёды пакідала гэтай знаёмай ключы ад хаты — каб дагледзела кветкі, праветрыла хату, пераначавала (жыву ў аднасямейным доме).

Я заўсёды разлічвала на яе добрасумленнасць і ніколі не думала, што яна можа ашукаць.

Расчараванне наступіла пазней. Калісь мы з сям'ёю вярнуліся раней, чым спадзяваліся, але ў хаце нікога не было. Праўда, была толькі дзевятая вечара, і я думала, што яна прыйдзе пазней. Мінула, аднак, дванаццатая, першая, а яе не было. Ужо маглі спакойна набушавацца там зладзеі. Не прыйшла да раніцы.

Калі зайшла яна ў нашу хату а шостай раніцы (відаць, праверыць, ці ўсё ў парадку, думала, што мы толькі прыехалі), дык кажа: „Ой, я толькі што была тут, але выскачыла ў краму!" Мне было прыкра слухаць гэту ману, і я перарвала яе. Мы, кажу, ужо тут ад вечара.

Доўга я пасля раздумвала, што рабіць, бо хатка ж наша стаіць здаля ад іншых хат, на самай ускраіне горада. Усё ж такі я прыйшла да вываду, што больш нікога прасіць не буду — я ж ёй за ўсё плачу, няўжо сумленне ёй дазволіць паўтарыць такое. Пэўна, тады здарылася нешта непрадбачанае, і яна проста не магла ў нашай хаце пераначаваць.

І, такім чынам, ізноў я давала ёй ключы і яна даглядала наш дом. Але аднойчы ізноў здарылася так, што мы вярнуліся раней, чым прадбачвалі. А як жа, была ў нашай хаце і спала ўжо, бо надыходзіла поўнач.

Ну, пакладліся і мы спаць. Спімо, раптам чую, што нехта стукае ў дзверы. Была ўжо можа гадзіна першая або другая. Я ўскочыла з ложка, бягом да дзвярэй, гляджу, а там мужчына, ды кажа: „Нінка, адчыні!"

Нінка — гэта яна, мая знаёмая. Думаю, каго ж гэта прынесла? Буджу яе.

Знаёмая ўстае, адчыняе дзверы і кажа, што яна нікуды з ім не паедзе, што ён павінен ісці дахаты.

Пасля растлумачыла мне, што гэта бацька яе кавалера, з якім быццам мела ехаць на вёску.

Мяне агарнуў жах. Усё было ясна: яна проста дамовілася на начную сустрэчу ў нашай хаце са сваім „свёкрам", але мы паявіліся ў хаце, і яна вымушана была нешта зманіць. Нікуды яна і не збіралася ехаць. Найстрашнейшае ў гэтым усім, што яна, прабач, спала і з маладым сынам, якога быццам бы кахала, і з бацькам — старым, недалужным чалавекам, які бадай, у ніводнай жанчыны не меў бы ўжо шанцу. А мо яна рабіла гэта з літасці? Але ўсё роўна я ад таго часу неяк брыджуся ёю.

**Вера**

Вера! Відаць, тут не літасць узяла верх, а страх перад старасцю, якая ў яе на носе. Якая жанчына ў пасцелі найлепшая, спыталі ў аднаго мудраца: дваццацігодка, трыццацігодка, ці саракапяцігодка? А мудрэц адказаў: „Саракапяцігодка, бо яна дае з сябе ўсё, думаючы, што кожны раз для яе можа быць апошнім!"

Так і твая знаёмая. Баіцца апошняга разу. А каханне ёй ужо не ў галаве. А ну яе!

**СЭРЦАЙКА**